Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 24 сакавіка 1989 г. № 12 (3474) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

# ФОРУМ СЯБРОЎ І АДНАДУМЦАЎ

**Сёння ў Гродне адкрываецца II Беларускі тэатральны фестываль**

ФЕСТЫВАЛІ... Колькі іх у нас было!.. Адны ўжо аджылі свой век, другія нараджаюцца, трэція набылі ўжо салідны ўзрост і добрую рэпутацыю.

Колькі іх яшчэ існуе ў планах, у выглядзе альбо ідэй, альбо канкрэтных праектаў! Так, з кожным годам фестываляў у нас становіцца ўсё больш. Зусім прывычным стаў для прыхільнікаў мастацтва жоўты кляновы лісток — эмблема фестывалю «Беларуская музычная восень». Кожны год, вясной, мы заўважаем на гарадскіх рэкламных шчытах чырвань цюльпанаў — сімвал фестывалю «Мінская вясна», мільгаюць у прэсе звесткі пра свята мастацтва «Дняпроўскія зарніцы», пра маючы адбыцца джазавы фестываль...

Мусім прызнацца, што рэспубліканскія тэатральныя фестывалі ў нас праходзяць не кожны год, таму іх чакаюць, як чакалі і гэты, гродзенскі. Беларускі тэатральны фестываль, арганізаваны Міністэрствам культуры і Саюзам тэатральных дзеячаў БССР, ужо ў другі раз расхінае заслону.

Тры гады назад удзельнікаў I Беларускага тэатральнага фестывалю гасцінна прымаў Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа. Тады на віцебскай сцэне практычна ўпершыню адбыўся фестывальны агляд спектакляў па п'есах сучаснай беларускай драматургіі. Асновай для яго стаў рэспубліканскі конкурс драматычных тэатраў «Наш сучаснік», галоўнай мэтай якога з'яўлялася стварэнне ў садружнасці «тэатр-аўтар» новага рэпертуару для нашай драматычнай сцэны. Адпаведна з вынікамі гэтага конкурсу была складзена і афіша першага Беларускага тэатральнага фестывалю, у якую ўвайшлі дзевяць новых п'ес. Характэрна, што сем з іх належалі пяру аўтараў-дэбютантаў у драматургіі.

Згадваючы падзеі трохгадовай даўнасці, трэба адзначыць, што драматургія дэбютантаў у большасці выпадкаў не знайшла тады дастаткова ўмелай, прафесійнай падтрымкі з боку рэжысуры, што нанесла адпаведную рэтуш на мастацкі ўзровень усяго фестывалю. Але менавіта розны ўзровень пастановак яшчэ раз пацвердзіў думку, што поспехі ў стварэнні нацыянальнага рэпертуару дасягаюцца толькі там, дзе існуюць не фармальныя ўзаемаадносіны беларускай літаратуры і тэатра, дзе за гэта бярэцца рэжысура высокапрафесійная, добразычлівая і бескампрамісная. Тэатр, які адчувае сваю прыналежнасць да нацыянальнай культуры, ганарыцца гэтым, дбае пра яе лёс.

Дык ці патрэбным аказаўся тэатрам вопыт таго фестывалю, ці быў ён выкарыстаны сёлета?

Аблічча сёлетняга фестывалю, яго ідэйна-мастацкую накіраванасць у пэўнай ступені вызначаюць тыя з'явы і тэндэнцыі, якія ўвайшлі ў сферу тэатра разам з перабудовай грамадства, аднаўленнем духоўных асноў. Адной з вызначальных рыс сучаснай тэатральнай палітыкі робіцца пошук нявыкарыстаных альбо новых пластоў драматургіі, якія адпавядаюць сучаснаму ўзроўню мастацкага мыслення, новаму падыходу да з'яў нашай гісторыі, праблем сённяшняга дня.

(Працяг на стар. 2—3).

## Фестывальная афіша

*Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы*
**«Страсці па Аўдзею» У. Бутрамеева.**
**«Жыццё Карыцына» А. Паповай.**
*Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа*
**«І быў дзень» А. Дударава.**
*Дзяржаўны рускі драматычны тэатр БССР імя М. Горкага*
**«Начныя Карлікі і Антыгона» Л. Разумоўскай.**
*Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача*
**«Прыгоды падарожніка Піпса» С. Фрэйедмана.**
*Гродзенскі абласны драматычны тэатр*
**«Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча.**
**«Зоркі на ранішнім небе» А. Галіна.**
*Магілёўскі абласны тэатр драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча (Бабруйск)*
**«Ка-та-стро-фа» А. Петрашкевіча.**
*Дзяржаўны маладзёжны тэатр БССР*
**«Неймаверны ілюзіён Эрні» А. Эйкборна.**
*Магілёўскі абласны драматычны тэатр*
**«Мудрамер» М. Матукоўскага.**
*Тэатр-студыя кінаакцёра кінастудыі «Беларусьфільм»*
**«Гамлет» У. Шэкспіра.**
*Група «Дыялог» (Мінск)*
**«Чыкагская бездань» Р. Брэдберы.**
**«Чорт у рабрыну» М. Фора.**
*«Тэатр-студыя «Дзе — я?» (Мінск)*
**«Андантэ», «Кватэра Каламбіны» Л. Петрушэўскай.**

*ВЫБАРЫ І НАШ ВЫБАР*

# «ТАК ДАЛЕЙ ЖЫЦЬ НЕЛЬГА!..»



**У НЯДЗЕЛЮ, 26 сакавіка, адбудуцца выбары народных дэпутатаў СССР, якія ўжо сёння, напярэдадні гэтай надзвычай важнай падзеі ў жыцці нашага грамадства, можна назваць адным з самых важных і рэальных крокаў па шляху да перабудовы і стварэння сапраўды прававой, дэмакратычнай дзяржавы. 26 сакавіка як ніякі іншы дзень выявіць і нашу сацыяльную актыўнасць, і ўзровень нашай палітычнай культуры.**

**Кандыдатам у народныя дэпутаты СССР па Мінскай — Ленінскай тэрытарыяльнай выбарчай акрузе № 563 вылучаны, сярод іншых, і вядомы наш паэт, першы сакратар праўлення СП БССР Ніл ГІЛЕВІЧ. З ім гутарыць супрацоўнік штотыднёвіка Уладзімір Ягоўдзік.**

**— Ніл Сымонавіч, вы ўжо колькі гадоў з'яўляецеся дэпутатам Вярхоўнага Савета рэспублікі, з асабістага вопыту ведаеце галоўныя клопаты і турботы большасці сваіх выбаршчыкаў. Аднак сёлетняя выбарчая кампанія шмат у чым адрозніваецца, непадобная да папярэдніх, таму хацелася б пачуць вашу думку пра выбаршчыка ўчарашняга і выбаршчыка сённяшняга, які сваім асэнсаваным выбарам выяўляе духоўны стан нашага сучаснага грамадства і, як мне думаецца, прагназіруе далейшае яго развіццё.**

— Пачну з таго, што наш выбаршчык — гэта не якісьці адзін чалавечы тып-вобраз. За яго «тытулам» — мільёны людзей розных прафесій, рознага сацыяльнага становішча, рознай грамадскай псіхалогіі, рознага жыццёвага вопыту і г.д. І тым не менш, ёсць падставы гаварыць пра тое, што іх усіх, такіх не падобных між сабой, сёння аб'ядноўвае. Думаю, што назва гэтаму — вялікая заклапочанасць лёсам нашай краіны, а значыць — і сваім уласным, і, дадам, будучыняй сваіх дзяцей. Інача гэта можна назваць вялікай нераўнадушнасцю да таго, што зараз адбываецца ў нашым жыцці — да хады перабудовы, да ўсіх тых працэсаў, што складаюць змест і сутнасць рэвалюцыйнага абнаўлення нашага грамадства. У друку гэту новую якасць у характары выбаршчыка называюць палітычнай актыўнасцю. Так, справядліва: рост грамадска-палітычнай актыўнасці нашых людзей — небывалы. Гэта асабліва добра бачна на перадвыбарных сходах — сустрэчах з кандыдатамі ў дэпутаты. Нічога падобнага не даводзілася назіраць калісь, раней, у часы яшчэ зусім не далёкія. Тады выбаршчык або наогул маўчаў, у сабе замкнуўшыся, або даваў наказы, якія не ішлі далей канкрэтных гаспадарчых і бытавых клопатаў мясцовага маштабу. Цяпер агульная карціна рэзка змянілася. Вядома, людзі гавораць і пра свае асабістыя «балячкі», пра непаладкі або недаробкі прыватнага характару. Але такога, шчыра кажучы, мала. Галоўны настрой і пафас кожнас залы — так далей жыць нельга і цярпець далей мы не павінны! І вы, каму будзе суджана стаць дэпутатам, зразумейце і запомніце: абавязак на вас ляжа неймаверна вялізны і цяжэзны, бо праблем, якія трэба неадкладна вырашаць, безліч. Уражвае сур'ёзнасць і патрабавальнасць, з якою выбаршчыкі слухаюць праграмныя выступленні кандыдатаў і дыскусіруюць, спрачаюцца з імі. Думаю, што вось гэта нераўнадушнасць, гэты настрой выбаршчыкаў і ёсць найпершая зарука таго, што працэс перабудовы ў нас будзе шырыцца і паглыбляцца.

**— Чытаючы ў «ЛіМе» старонкі вашых публіцыстычных сшыткаў «Між былым і наступным», вельмі паказальным у выяўленні сітуацыі, якая склалася ў нашай рэспубліцы, мне падаўся факт, што на аб'яднаным пасяджэнні Камісіі па асвеце і культуры і Камісіі заканадаўчых меркаванняў Вярхоўнага Савета БССР, пры абмеркаванні праекта Закона аб**

(Працяг на стар. 2—3).

*На тэму дня*

Ігнат ДУБРОЎСКІ

# ПРАСТОР ДЛЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ

*«Нам неабходна аграрная палітыка, якая забяспечыць радыкальныя перамены ў развіцці вёскі — палітычныя, эканамічныя, сацыяльныя, культурныя,— вырашэнне ў самыя кароткія тэрміны праблем, якія накапіліся ў адной з асноўных сфер жыццядзейнасці нашага грамадства, што адкрые простор ініцыятыве сельскіх працаўнікоў».*

**(З даклада Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова на сакавіцкім (1989 г.) Пленуме ЦК КПСС).**

Пленум ЦК КПСС выпрацаваў эфектыўную аграрную палітыку, ажыццяўленне якой дазволіць вырашыць задачы ўстойлівага харчовага забеспячэння краіны, сацыяльнага, эканамічнага аднаўлення вёскі.

Хачу падзяліцца некаторымі сваімі думкамі з нагоды гэтай важнейшай, я сказаў бы нават, гістарычнай падзеі.

Гарачыя галовы з сістэмы Дзяржаграпрома і нават некаторыя вучоныя яшчэ да Пленума прарочылі роспуск большай часткі калгасаў і саўгасаў таму, што яны, маўляў, сябе не апраўдалі. Землі ж раздаць сямейным фермам. З іхняй літасці павінны былі застацца толькі калгасы і саўгасы, якія ўзняліся да ўзроўню так званых маякоў.

Як бы ў плане пярэчання намерам распусціць калгасы без ведама і згоды калгаснікаў, было выступленне на Пленуме Н. В. Паравярзевай — механізатара, майстра-настаўніка калгаса «Шлях Леніна» Растоўскай вобласці.

«Але калі ставіцца пытанне — быць калгасам ці не быць, мне, простай калгасніцы, проста страшна падумаць аб такой пастаноўцы, — з трывогай, болем і крыўдай гаварыла яна.. — Мне здаецца, іменна цяпер трэба шукаць і знаходзіць новыя шляхі, формы кіравання калгасамі. Іх узбуйнілі, можа, таму яны крыху цяжкаватыя, складаныя ў кіраванні. Іменна таму ў калгасах трэба ствараць дробныя арэнды, як мы іх называем».

Шчыра кажучы, гэта было самае ўражлівае выступленне ў абмеркаванні даклада М. С. Гарбачова. З вуснаў гэтай простай, а сапраўды па-дзяржаўнаму мудрай сялянкі прагучаў голас народа, голас савецкага сялянства. Яна выказала, засведчыла прыхільнасць сялян да сацыялізму.

Шырока вядома, што Сталін і яго паплечнікі (ігнаруючы ленінскія прынцыпы) правялі прымусовую калектывізацыю, ліквідавалі разам з кулацтвам і значную частку серадняцтва. На працягу доўгіх гадоў адміністрацыйна-камандныя метады кіраўніцтва пазбаўлялі калгаснікаў права вольна гаспадарыць на зямлі, ператварылі калгасы ў крыніцу сродкаў для развіцця прамысловасці, у той жа час трымаючы калгаснікаў на галодным «працадні». У выніку гэтага мільёны сялян пакінулі зямлю, бацькоўскія дамы. І ўсё-такі калгасы, як сацыялістычны тып гаспадаркі, выстаялі. Гэта, бадай, лепш за іншых разумеюць сяляне.

Пленум пацвердзіў агульнае права ўласнасці на зямлю за дзяржавай. Карыстацца ёй можа кожны грамадзянін, які пажадае працаваць на зямлі, у калектыве або асобна, сваёй сям'ёй. Выбар формы гаспадаркі вольны.

Некаторыя вучоныя-эканамісты з высокімі вучонымі ступенямі ўносілі прапанову аб бясплатнай перадачы зямель распушчаных калгасаў фермерам з правам спадчыннасці і продажу яе. Гэта вельмі зручны пралаз для спекуляцыі самым дарагім багаццем народа — зямлёй. Адразу знайшліся б аматары, якія, атрымаўшы зямлю ад дзяржавы ва ўласнае карыстанне, не марудзячы пачалі б яе прадаваць.

Я, шчыра кажучы, перад Пленумам хваляваўся — ці застануцца аграпромы, якія, хоць і існуюць нядоўга, але зжылі сябе, з'явіліся тормазам у сельскай гаспадарцы. Пленум падышоў да гэтай праблемы цвяроза, вырашыў скасаваць раённыя аграпрамысловыя аб'яднанні (РАПА). Гаспадаркі могуць цяпер на строга добраахвотных пачатках ствараць адпаведныя гаспадарчыя фарміраванні для выканання функцый рамонтна-тэхнічнага, будаўнічага і іншых відаў абслугоўвання.

Скасоўваюцца абласныя аб'яднанні аграпрамкомплексу, рэспубліканскія і саюзны Дзяржаграпромы. Ствараецца Дзяржаўная камісія Савета Міністраў СССР па прадуктах харчавання і закупках.

Пленум выпрацаваў маштабную і мэтанакіраваную праграму сацыяльнай перабудовы вёскі. Намечана шырока разгарнуць будаўніцтва жылых дамоў, не абмяжоўваючы выбар тыпу дамоў, іх памераў, паверхавасці. Прадугледжваецца шырокае будаўніцтва школ, бальніц, культурных, спартыўных устаноў, прадпрыемстваў гандлю і бытавога абслугоўвання, добраўпарадкавання пасёлішчаў, пракладка ўнутрыгаспадарчых дарог.

За апошнія 27 гадоў (1961—1988) у сельскую гаспадарку было накіравана 884 мільярды рублёў. Вялікія грошы! Нізкая аддача іх перш-наперш тлумачыцца адміністрацыйна-каманднымі метадамі кіраўніцтва, якія глушылі, звязвалі ініцыятыву сялян, пазбаўлялі іх магчымасці вольна гаспадарыць на зямлі. Другая прычына — значная частка гэтых сродкаў не дайшла да палёў і ферм. Яна асела ў Сельгастэхніцы, Сельгасхіміі і іншых установах, якія абслугоўвалі калгасы і саўгасы.

Вытворчыя фонды сельскай гаспадаркі сёння складаюць 360 мільярдаў рублёў. Але калі суаднесці іх з плошчай сельскагаспадарчых угоддзяў нашай краіны — 550 мільёнаў гектараў, — то і гэта, на першы погляд, астранамічная сума не такая ўжо, на самай справе, вялікая. Тэхнічная ўзброенасць калгасніка, саўгаснага рабочага ў шмат разоў меншая, чым узброенасць, скажам, амерыканскага фермера.

Нарошчванне тэхнічнай узброенасці калгасаў і саўгасаў — важнейшая задача ў эканамічным плане перабудовы сельскай гаспадаркі. І самая цяжкая.

Павышэнне эфектыўнасці ўкладанняў у сельскую гаспадарку ў значнай меры залежыць ад эквівалентнасці абмену прадукцыі палёў і ферм на машыны, абсталяванне, будаўнічыя матэрыялы, мінеральныя ўгнаенні і іншую прадукцыю прамысловасці.

Усё гэта цяпер павінна быць даведзена да ладу. З 1 студзеня 1990 года намячаецца перагляд закупачных цэн на сельскагаспадарчую прадукцыю.

І ў мінулым партыя неаднойчы прымала добрыя рашэнні па аграрных пытаннях. Прыгадаем пастановы вераснёўскага Пленума ЦК КПСС 1953 года, сакавіцкага 1965 года, майскага 1982 года. На гэтых Пленумах былі выпрацаваны рэальныя праграмы ўздыму сельскай гаспадаркі, але заганныя метады кіраўніцтва не далі магчымасці іх выканаць.

Мне даспадобы, што падрыхтоўка да Пленума вялася адкрыта, усенародна. Перадпленумаўская дыскусія зрабіла ўвесь наш народ як бы непасрэдным удзельнікам разгляду праблем сельскай гаспадаркі. У адрас Пленума паступіла шмат тэлеграм у падтрымку яго рашэнняў. У гэтым зарука паспяховага выканання комплекснай праграмы, выпрацаванай Пленумам.

Вельмі важна зараз добра падрыхтавацца да пераходу на арэнду, да брыгаднага, калектыўнага, сямейнага падраду. Трэба мець яснае ўяўленне аб формах і відах арэнды. Пакуль што гэтага яшчэ няма ні ў калгаснікаў, будучых арандатараў, ні ў спецыялістаў, ні ў кіраўнікоў, ні нават у вучоных. Ёсць рэляцыі аб пераходзе на арэнду ледзь не ва ўсіх калгасах, але каб гэта не стала фармальным актам. Гэта мы ўмеем...

Выкананне пастаноў Пленума патрабуе напружанай і настойлівай працы не толькі сялян, але і гараджан. Галоўнай сілай у выкананні пастаўленых задач будзе моладзь. З яе асяроддзя варта смела вылучаць людзей на кіруючыя пасады, пачынаючы ад арэндных звенняў, брыгад да кіраўнікоў гаспадарак і ўстаноў усіх узроўняў.

Адна істотная дэталь. Зала пасяджэнняў Пленума на экране тэлевізара... Твары, твары... Пераважна пажылыя. Усведамляеш, што гэта заслужаныя людзі, і ўсё ж міжволі ўзнікае думка аб патрэбным амаладжэнні кіраўнічага корпуса.

У вялікай і пачэснай справе выканання прынятых партыяй пастаноў немалая праца даводзіцца і на долю пісьменнікаў, прадстаўнікоў усіх жанраў, асабліва публіцыстыкі, сатыры, камедыі.

Усеабдымнасць, комплексны характар рашэння аграрных праблем, іх надзённасць, тэарэтычная, эканамічная, сацыяльная, арганізацыйная абгрунтаванасць, падтрымка пастаноў Пленума народам—натхняюць.

# ФОРУМ СЯБРОЎ І АДНАДУМЦАЎ

**(Пачатак на стар. 1).**

Фестываль, які мае адбыцца ў Гродне, адрозніваецца ад мінулага па многіх арганізацыйных і творчых падыходах. Больш патрабавальным быў адбор спектакляў для ўдзелу ў конкурсе. Дэмакратызацыя форм тэатральнай дзейнасці спрыяла з'яўленню ў рэспубліцы шэрагу новых драматычных калектываў, тэатраў-студый, сцэнічных груп. У арбіту ўвагі фестывалю разам з дзяржаўнымі тэатрамі ўвайшлі тэатры-студыі, некалькі лепшых па-

**— Якія надзеі вы звязваеце з Беларускім тэатральным фестывалем! — адказаць на гэта пытанне мы папрасілі прадстаўнікоў розных сцэнічных калектываў рэспублікі.**

**Валерый МАСЛЮК, галоўны рэжысёр Рускага тэатра БССР:**

**— Мне здаецца, што ў мітусні будзённых спраў і слоў мы адвучыліся па-сапраўднаму святкаваць. Таму і чакаю не мерапрыемства, а менавіта свята тэатральнага мастацтва Беларусі. Хацелася б таксама, каб фестываль не ператварыўся ў сустрэчу крытыкаў і рэжысёраў, а ўдзельнікі спектакляў, акцёры не засталіся «па-за гульнёй». Вельмі чакаю прынцыповай гаворкі пра стан тэатральнага мастацтва рэспублікі, плённага пошуку адметных напрамкаў нашага развіцця.**

**Віктар МІХАЙЛАЎ, акцёр Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя Дуніна-Марцінкевіча:**

**— Цікавым з'яўляецца тое, што шэраг абласных тэатраў будзе іграць спектаклі на беларускай мове. Сёння гэта павінна выклікаць пачуццё сапраўднага гонару, хоць я і не вельмі перакананы, што рускамоўныя тэатры, якія ставяць асобныя, раз у год спектаклі па-беларуску, могуць унесці істотны ўклад у вырашэнне моўнай праблемы. Спробы такіх пастановак рэдка бываюць удалымі (зноў жа, гэта мая думка) і з'яўляюцца хутчэй выключэннем, чым правілам. Тым не менш, наш тэатр з захапленнем працаваў над п'есай А. Петрашкевіча «Ка-та-стро-фа». Што атрымалася — убачыце самі, адзначу толькі, што глядач нашага горада адчувае такую захопленасць.**

**Хочацца верыць, што фестываль дапаможа ўсталяваць высокія крытэрыі творчасці. і мы ўбачым сапраўдныя творы сапраўды сучаснага тэатра.**

**Сяргей БЕЛЬЦЮКОЎ, кампазітар, загадчык музычнай часткі Рэспубліканскага ТЮГа:**

**— Мяне, як кампазітара, перш за ўсё хвалюе музычны бок фестывалю. На жаль, пра музыку ў драматычным спектаклі гавораць ці вельмі мала, ці ўвогуле не гавораць. Музыка ж**

# «ТАК ДАЛЕЙ ЖЫЦЬ НЕЛЬГА!..»

**(Пачатак на стар. 1).**

**народнай адукацыі, вашу рэзка адмоўную пазіцыю ў дачыненні да «антыбеларускіх» пунктаў гэтага дакумента падтрымала галасаваннем толькі адна душа: плітачніца Бабруйскага будтрэста, дэпутат Палагея Васільеўна Дзікун... Усе ж іншыя аказаліся, так бы мовіць, «інтэрнацыяналістамі» ў сваім бюракратычным сэнсе. Ці не тут найпершая пагроза перабудове, дэмакратызацыі, нацыянальнаму адраджэнню? Ці верыце вы ў магчымасць паступовага «перавыхавання» нашых мясцовых столаначальнікаў? Ці бачыце нейкую рэальную сілу, якая б прымусіла іх перамяніць сваю пазіцыю?**

— Мы гаварылі пра нядаўнюю пасіўнасць выбаршчыкаў — такая ж пасіўнасць, раўнадушнасць, апатыя панавалі і на дэпутацкіх сесіях (усіх узроўняў, але, здаецца, чым вышэй — тым цішэй, — прашу прабачэння за гэту нечаканую рыфму). Бясспрэчна, з дэпутатамі-маўчальнікамі або выступальшчыкамі па недзе падрыхтаваных «шпаргалках» дабіцца якіх-небудзь істотных перамен у жыццядзейнасці нашых Саветаў немагчыма. Значыць, у Саветы павінны прыйсці іншыя людзі — тыя, у якіх хопіць і сэрца, і розуму, і мужнасці, каб не толькі адчуць, убачыць, зразумець, дзе сапраўдныя інтарэсы народа, але і абараніць іх, пазмагацца за іх.

Што датычыць «перавыхавання столаначальнікаў»... Я наогул веру ў магчымасць перавыхавання чалавека, веру, што чалавек здольны змяніцца, і нават істотна, у лепшы бок, што ў ім можа ачнуцца і загаварыць сумленне, і ён зойме іншую жыццёвую пазіцыю, духоўна і маральна перарадзіцца... Тым больш аптымістычна я гляджу на тыя выпадкі, калі няма падстаў гаварыць пра поўную амярцвеласць душы, пра атрафіраванасць гэтага самага сумлення, калі, напрыклад, чалавека ўсяго-наўсяго скоўвае страх — страх перад вышэйшым начальствам, страх за службовае крэсла, за сякія-такія прывілеі... У такім разе страх трэба пераадолець — і толькі. Развіццё падзей у краіне, спадзяюся, дапаможа многім вызваліцца ад непатрэбных страхаў. Да гэтага заклікае партыя, гэтаму садзейнічае шырокі і разнастайны па формах грамадскі рух — так бы мовіць, «голас знізу». Як на мой погляд, дык для ўпартых антыперабудоўшчыкаў няма іншага выйсця, як перамяніць сваю пазіцыю. Інакш можна зусім апынуцца «за бортам» — у баку ад грамадскага жыцця. А гэта для чалавека і ёсць самае страшнае, па-мойму.

**— У апошні час вы настойліва падымаеце пытанне аб стварэнні ў рэспубліцы «Таварыства беларускай мовы». Вельмі патрэбнае аб'яднанне, знайшліся б у яго і прыхільнікі, але ў сучасных умовах ці не чакае яго лёс шмат у чым зафармалізаванага рэспубліканскага Фонду культуры? Ці вы бачыце нейкае выйсце, якое дасць магчымасць пазбегчы названай хваробы?**

— Ідэя стварыць у рэспубліцы Таварыства беларускай мовы жыве ў маёй душы даўно. Цяпер, ва ўмовах перабудовы, я адчуў, што прыйшла пара для яе ажыццяўлення. Шкадую, што не выйшаў з ёю «на людзі» гады тры ці два назад — сёння б ужо мелі, не сумняваюся, добрыя плёны з працы гэтага таварыства.

Якімі бачацца мне мэты і задачы Таварыства? Калі зусім коратка — прапаганда ідэі захавання і развіцця беларускай мовы як самага каштоўнага скарбу нацыі, садзейнічанне вывучэнню яе і павышэнню яе статуса ў рэспубліцы, выхаванне павагі і любові да роднага слова... Само сабой зразумела, уся гэта работа павінна весціся на трывалай інтэрнацыянальнай аснове — ні ў якой меры не за кошт павагі да іншых моў краіны ці за кошт уразання правоў рускай мовы як мовы міжнацыянальных зносін. Арганізацыйная структура Таварыства бачыцца мне ў найвышэйшай ступені дэмак-

становак якіх будуць паказаны на малой сцэне Гродзенскага абласнога драмтэатра. Увазе гледача прапануюцца таксама спектаклі, якія падрыхтаваны менавіта для малой камернай сцэны.

З мэтай падрыхтоўкі да фестывалю ў рэспубліцы, як і ў мінулы раз, быў аб'яўлены чарговы агляд беларускай драматургіі і тэатральнага мастацтва. У яго рамках за два гады было пастаўлена пятнаццаць новых п'ес беларускіх аўтараў, спіс драматургічнага актыву папоўнілі дзевяць новых імёнаў. Але ці змог гэты агляд беларускай драматургіі стаць яскравай, творчай асновай для фестывалю, як гэта павінна быць? Адказаць на пытанне няпроста. Калі з улікам сучасных тэатральных патрабаванняў скласці з гэтых пятнаццаці пастановак праграму паказу спектакляў на вялікай і малой фестывальных сцэнах, то гэта, хутчэй за ўсё, атрымалася б свята драматургіі для трох-чатырох аўтараў...

Так, вынікі творчых адносін тэатраў і нашых драматургаў у рамках згаданага агляду маглі б быць больш плённымі. Дык ці не прыгадаць нам цяпер, напярэдадні адкрыцця фестывалю, адну з высноў, пацверджаную ўжо неаднойчы: у справе стварэння нацыянальнага рэпертуару высакаякасны вынік можа быць там, дзе па лініі «драматург — рэжысёр — тэатр» адбываецца не паказное, а сапраўды творчае ўзаемаўзбагачэнне.

**Вацлаў ВАЛАДЗЬКО,**
**галоўны рэдактар рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі ўпраўлення мастацтваў Міністэрства культуры БССР.**



У. БУТРАМЕЕЎ. «Страсці па Аўдзею». А. ЛАБУШ (Андрэй) і А. ІВАННІКАВА (Верка). Акадэмічны тэатр імя Янкі КУПАЛЫ.

Фота Ул. КРУКА.

**Ігар ПЯТРОЎСКІ,**
**галоўны рэжысёр-дырэктар Гродзенскага абласнога драмтэатра:**

**— Важна, што II Беларускі тэатральны фестываль выклікае дадатковую цікавасць да сцэнічнага мастацтва, дасць магчымасць гродзенцам убачыць спектаклі іншых драматычных тэатраў рэспублікі. Кожнаму з нас, работнікаў тэатра, важна ведаць, што ўяўляе сабой тэатральнае мастацтва сёння і адчуць, якое месца ў ім займаем мы, нашы калектывы. Думаем, што пасля заканчэння свята з'явяцца новыя аматары тэатра.**

**Чэсна кажучы, не хочацца бачыць хваравітага саперніцтва за ўзнагародамі, калі кожны хоча штосьці «ўрваць» — грошы або дыплом. Трэба адчуць на фестывалі дух таварыства і супрацоўніцтва, сяброўства і ўзаемапавагі.**

**Думаю, правільна зрабілі арганізатары, што шырэй, чым раней, расчынілі дзверы для ўдзельнікаў фестывалю, маю на ўвазе — дазволілі ўдзельнічаць у ім не толькі спектаклям па творах беларускай драматургіі. Аднак вось падстава для роздуму: хоць паказваць на фестывалі спектакль беларускага аўтара — справа не абавязковая, але на працягу 7 дзён мы ўбачым 6 спектакляў беларускіх аўтараў з 13. І такі вынік атрымаўся без усялякага прымусу «зверху»! Мяркую, павышэнне цікавасці да твораў сваіх аўтараў аб'ектыўны працэс у тэатральным жыцці рэспублікі.**

**Мы — гаспадары фестывалю, і праблем у нас шмат. Будзем імкнуцца зрабіць усё так, каб фестываль надоўга запомніўся як вялікае тэатральнае свята, форум сяброў і аднадумцаў.**

**...у драматычным і, тым больш, у музычна-драматычным спектаклі мае патрэбу ў крытыцы. І перш за ўсё яна неабходна там, дзе рэжысёр, спадзеючыся толькі на свой густ, выкарыстоўвае яе не лепшым чынам.**

**Яшчэ праблема — аснашчэнне большасці тэатраў гуказапісваючай і ўзнаўляльнай апаратурай пакідае жадаць лепшага. Спробы тэатраў вырашыць гэтае пытанне сваімі сіламі, як правіла, церпяць няўдачу. Не хапае сродкаў, часу, зацікаўленасці.**

**Тэатр мае патрэбу ў гукавой апаратуры самага высокага класа, а таксама ў кваліфікаваных спецыялістах, здольных яе абслугоўваць. Толькі тады, калі будзе вырашана гэтая праблема, можна будзе гаварыць пра якасць гуку.**

**Хацелася б бачыць Беларускі тэатральны фестываль святам, прычым святам, пазбаўленым тэхнічных недахопаў, святам цудоўных акцёрскіх работ, аб'ектыўнай ацэнкі з боку друку, крытыкаў і гледача.**



А. ДУДАРАЎ. «І быў дзень...» Т. КОКШТЫС (Піфагор) і А. ЛАБАНОК (журналіст). Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа.

Фота С. КОХАНА.



В. ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ. «Пінская шляхта». А. МАРЦЫНЮК (Куторга) і В. КАТРАНАЎ (Пісулькін). Гродзенскі абласны драматычны тэатр.

Фота Б. МЕШЧАРАКОВА.

ратычнай. Яго членам можа стаць кожны, хто спрыяе ідэі адраджэння мовы і культуры беларускага народа і гатоў нешта канкрэтнае, карыснае рабіць для гэтага. «Ячэйкі» таварыства могуць існаваць у школах і тэхнікумах, у інстытутах і універсітэтах, на фабрыках і заводах, у дзяржаўных і грамадскіх установах і г.д.

Сакратарыят Саюза пісьменнікаў прыняў рашэнне ўзяць на сябе місію па стварэнні аргкамітэта Таварыства беларускай мовы. У пачатку сакавіка, мяркую, аргкамітэт збярэцца на першае пасяджэнне, дзе распрацуе праект праграмы Таварыства і статут і вызначыць дату склікання Устаноўчай канферэнцыі. На канферэнцыі будуць дэталёва абмеркаваны ўсе магчымыя аспекты дзейнасці Таварыства. Не думаю, што яму пагражае небяспека зафармалізавацца, аказёніцца. Справа — вельмі жывая, прынцыпы арганізацыі і дзейнасці — цалкам дэмакратычныя і на грамадскай аснове. Моцна веру, што дзейнасць Таварыства будзе падтрымлівацца партыйнымі і іншымі грамадскімі арганізацыямі, што да яго «голасу» будуць прыслухоўвацца ўсе, хто неабыякавы да лёсу нашай мовы, нашай нацыянальнай культуры, а значыць — і да лёсу самой беларускай нацыі.

**— У маім уяўленні сапраўдны майстар слова — ужо народны абраннік, народны дэпутат. *Яго шчыры праўдзівы голас* можа зрабіць больш, чым дэпутацкі мандат, вядома, пры скасаванні той гульні ў паўпраўду, якая ўсё яшчэ назіраецца на старонках рэспубліканскіх газет і часопісаў. Здзіўляешся вашаму ўменню сумяшчаць актыўную грамадскую дзейнасць з насычаным творчым жыццём...**

— Вядома, прызванне, як вы кажаце, «майстра слова» такое высокае і адказнае, што і без тытула «народны абраннік» — клапотаў і працы ў яго неўправарот, і яго «праўдзівы голас» можа важыць больш, чым іншы дэпутацкі мандат. Але калі гэты голас ды яшчэ спалучыць з тымі правамі, якія надаюцца народнаму дэпутату, калі яму даць магчымасць прагучаць з трыбуны вышэйшага заканадаўчага органа, дзе будуць прымацца вызначальныя для лёсу народа рашэнні?.. Думаю, што праўдзівасць голасу ад гэтага не аслабне — ва ўсякім разе, не дай бог, каб такое з кім-небудзь з народных абраннікаў-мастакоў здарылася... Што да «ўмення сумяшчаць», пра якое вы гаворыце, дык «сакрэты» тут невялікія: на законны і неабходны адпачынак не застаецца ні дня, ні гадзіны. І ў якасці прыкладу для іншых гэтае самае «ўменне», на жаль, не гадзіцца.

## *Думка чытача*

# ЛЕПШ АДЗІН РАЗ УБАЧЫЦЬ...

**З нагоды адной тэлеперадачы**

Пішу гэты ліст пасля прагляду перадачы «Факты і меркаванні (Як гэта было)», якую паказалі па праграме БТ у суботу 18 сакавіка ў 21.40. Былі паказаны фрагменты мітынгу на стадыёне «Дынама», які адбыўся 19 лютага, з каментарыем згаданага ўжо ў «ЛіМе» А. Трызны. Тав. Трызна многа гаварыў аб сваім разуменні дэмакратыі і галоснасці. Ды толькі яго перадача бумерангам ударыла па аўтару, бо, як вынікала з праграмы, яна павінна была доўжыцца гадзіну, але чамусьці скончылася на 15 хвілін раней. Хто і што «выразаў» і чаму? Ужо гэта сведчыць, што многа нам яшчэ трэба змагацца і працаваць, каб у сродках масавай інфармацыі запанавала сапраўдная галоснасць.

Хацелася б зрабіць колькі заўваг адносна зместу перадачы.

Вельмі дзіўна выглядаў чорна-белы сюжэт, які быў зняты ў Вільнюсе, дзе С. Вітушка абдымаецца з Анішчыцам (ці як там яго). Здзіўляе імкненне А. Трызны прыцягнуць у асабістае, прыватнае жыццё нешта накшталт вядомага юрыдычнага: «няведанне закона не вызваляе ад адказнасці». Наколькі я ведаю, у той жа «Талакі» няма разведкі, службы крымінальнага вышуку і г.д. Таму, калі «Талака» ці іншыя нефармалы прымаюць мяне, напрыклад, дык яны прымаюць мяне сённяшняга. Яны не ведаюць і не могуць ведаць, што я рабіў 5—15—40 гадоў таму назад, асабліва, калі я нідзе не выступаў. Вось калі ўжо таварышы, накшталт А. Трызны (ці Б. Залескага і М. Ільюшэнкі), «адкрыюць вочы» на мяне ці іншую асобу, то, пэўна, нефармалы пабягуць ад здрадніка (шпіёна, калабаранта), як чорт ад крыжа. Прынамсі, калі б А. Трызна расказаў С. Вітушку аб мінулым Анішчыца да Сойма, нават талерантны С. Вітушка, мяркую, не стаў бы з ім абдымацца...

Вельмі здзіўляе занепакоенасць А. Трызны тым, каб «мітынгавая» дэмакратыя не зацягнулася на год, а то і больш. Чаму ж дасведчаны каментатар БТ не разумее (ці не хоча разумець), што мітынг з'яўляецца такой жа неад'емнай часткай грамадскага жыцця ў дэмакратычнай прававой дзяржаве, як і свабодныя выбары, як і галоснасць. «Хопіць мітынгаваць — трэба працаваць!» амаль тое ж самае, што: «Хопіць дыхаць — лепш глядзі...»

Не варта, дарэчы, заклікаць тых жа нефармалаў працаваць. Яны і так працуюць кожны на сваім месцы. А мітынгі, імпрэзы, суботнікі, святкаванні ладзяць у **выхадныя** дні!

Адносна «моўных» пытанняў. Тав. Трызна заклікае з экрана тэлевізара не націскаць моцна на дзяржаўна-юрыдычныя меры, а прапануе зноў жа неяк неакрэслена «працаваць», каб усё насельніцтва «загаварыла» на беларускай мове. Ці не забываецца ён, аднак, што ёсць вельмі вялікі шэраг пытанняў, якія можна вырашыць **толькі заканадаўча?** Вось, напрыклад, вяртанне правапісу, *скалечанага сталінізмам*. А справаводства ў дзяржаўных установах? Адны пішучыя машынкі з беларускім шрыфтам — і то праблема! Можа, дастаткова «загаварыць», як яны зваляцца з неба? Школы, ПТВ, тэхнікумы, ВНУ таксама не з'явяцца самі нават тады, калі ўсё насельніцтва загаворыць, бо спачатку трэба падрыхтаваць кадры, надрукаваць падручнікі і дапаможнікі. Усе гэтыя пытанні могуць быць вырашаны толькі на ўзроўні ўрада, вышэйшых партыйных органаў, мясцовых Саветаў. Сярод усяго іншага, дарэчы, мы ім грошы плацім і за тое, каб яны рупіліся аб мове і культуры народа, ад імя якога і дзеля якога яны існуюць і працуюць.

Божа барані, я, карыстаючыся выпадкам, не збіраюся «очертя голову» кідацца на абарону нефармалаў. Па-першае, таму, што яны мяне не прасілі. Па-другое, нефармалы бываюць вельмі і вельмі розныя. А па-трэцяе, нават сярод тых, якія ўдзельнічаюць у блізкім мне па духу, так сказаць, культурна-гістарычным кірунку, ёсць і перахлесты. Ёсць і памылкі, нават грубыя. Але ж нефармальны рух — вельмі малады. Тым больш, што ўсе адмоўныя рысы, якія я пералічыў, не з'яўляюцца манапольнай уласнасцю *толькі* нефармальнага руху, на жаль...

Мяне стае і на тое, каб заўважаць і пазітыў у нефармальным руху. І не толькі заўважаць, але і падзякаваць за тое, што яны, як казалі ў старажытным Рыме, праводзяць «эксперыментум ін пропрыо корпорэ манум» (даследаванне *на ўласнай маладой асобе*) — прапагандуюць мову сярод насельніцтва, размаўляючы на гэтай мове, а не размаўляючы аб ёй. Дзякуючы ім сёння не так ужо рэдка (зразумела, яшчэ вельмі рэдка для сталіцы Беларусі) можна пачуць на вуліцы беларускую гаворку. Мне хочацца падзякаваць нефармалам і за тое, што яны не даюць драмаць нашым родным уладам, вельмі цяжкім на пад'ём.

На заканчэнне не грэх падзякаваць і асабіста А. Трызну. Хаця б за тыя 20 хвілін трансляцыі выступленняў на мітынгу, бо праўду кажуць, што лепш адзін раз убачыць, чым сто — пачуць.

**Лявон ТАРАСЕНКА,**
**кандыдат біялагічных навук.**

г. Мінск.

**АД РЭДАКЦЫІ.** **Акрамя ліста Л. Тарасенкі, у пошце «ЛіМа» нямала і іншых водгукаў на перадачу БТ «Факты і меркаванні», прысвечаную мітынгу на стадыёне «Дынама» 19 лютага. Як вынікае з пошты, чытачоў абурыла яшчэ адна спроба маніпуліраваць грамадскай свядомасцю. Пра гэта пішуць ветэран вайны і працы І. Януковіч з Полацка, інжынер Л. Спевак, пенсіянерка З. Рузанава, рэжысёр В. Тамзялеўскі, навуковы супрацоўнік І. Федаровіч з Мінска і іншыя.**



# «БЫЦЦАМ КРОНЫ, БЫЦЦАМ КАРАНІ...»

**Штрыхі да творчага партрэта Сяргея ПАНІЗНІКА**

З ГАДВАЕЦЦА рэцэнзія Вячаслава Рагойшы на першы паэтычны зборнік Сяргея Панізніка «Кастры купалля», змешчаная дваццаць адзін год назад у часопісе «Маладосць» (1968, № 1). Малады тады крытык здолеў заўважыць у творчасці паэта, свайго аднагодка, тое, чаго не адчулі іншыя: надзвычайную повязь з бацькоўскай зямлёй, неадольнае жаданне адчуваць сябе часцінкай яе. В. Рагойша не толькі даў ацэнку кнізе таварыша па пяру, а і прадугадаў далейшыя накірункі яго творчасці. У прыватнасці, ён зазначаў: «Кастры купалля»— кніга ваяўнічая ў лепшым сэнсе гэтага слова. Яна ваює з грамадзянскай інфантыльнасцю, з нацыянальным нігілізмам, сцвярджае ў чалавеку гістарычнае і нацыянальнае «я». Сучаснага няма без мінулага, будучыні — без сучаснага. Паэт імкнецца ажывіць у нашай памяці ўчарашні дзень, каб яшчэ ярчэйшы, больш радасны быў дзень сённяшні і заўтрашні».

Сёння, калі на рахунку С. Панізніка ўжо сем паэтычных зборнікаў, гэтыя словы можна паўтарыць у дачыненні да ўсёй творчасці паэта. Пачатак жа гэтай непрымірымасці да ўсяго, што ў далейшым нараджае, а потым жывіць бяспамяцтва, духоўнае манкурцтва, агаляе душу на буравейных паўстанках часу і гісторыі, — там, у «Кастрах купалля».

Ужо тады, на пачатку дарогі, маральнае ачышчэнне паэт бачыў у звароце да гістарычных вытокаў. Яго лірычны герой, кідаючы ў думках позірк назад, задумваўся над сваім паходжаннем, перагортваючы старонкі не толькі сваёй радаслоўнай, але і радаводнай усяго народа:

**Продкі мае,**
**крывічы,**
**камяні**
**асцярожна ў далоні бралі —**
**клалі першыя гарады.**
**На веча**
**майстроў склікалі,**
**каб паслаць Скарыну**
**роднаю моваю**
**першую кніжку стварыці.**

Яны ж, продкі нашы, і «разводзілі кастры купалля», каб, пранёсшы праз стагоддзі, перадаць добры звычай нам, сваім нашчадкам: «песні палымлівыя спявалі, сваю зямлю вякамі ўслаўляючы, і не хадзілі ад яе упрочкі».

Скарына, Купала, Купалле... Дарагія і блізкія сэрцу кожнага беларуса паняцці, прозвішчы, імёны. Яны ў далейшым будуць пераходзіць у С. Панізніка з кнігі ў кнігу, паступова становячыся свайго роду сімваламі ўсяго нацыянальнага, роднага, беларускага. Аднак усё гэта будзе яшчэ наперадзе. Пакуль што лірычны герой, паўстаючы асобай духоўна багатай, душэўна чыстай, часам адчуваў сябе даволі няўтульна на жыццёвых ростанях. Прычына, бадай, у тым, што і сам паэт па тым часе яшчэ дакладна не вырашыў, дзе яго сапраўднае прызванне.

Сяргей Панізнік на шмат гадоў звязаў свой лёс з арміяй, стаўшы прафесійным ваенным. І першы зборнік «Кастры купалля», і другі «Палявая пошта», і трэці «Крона надзеі», і нават частка чацвёртай кніжкі «Чало і век» пісалісся «ваенным» чалавекам. Гэта, канечне, не магло не пашырыць тэматычных абсягаў лірыкі. Невыпадкова той жа В. Рагойша правёў паралель паміж адным з ранніх вершаў С. Панізніка: «Край мой — маё сумленне, радасць мая і гордасць. Край мой — маё маленне перад бядою і горасцю» і народнай песняй: «Край мой — сумленне маё, сям'я — павага мая. Сям'я — павага мая, жонка — парада мая. Жонка — парада мая, дзеці — пацеха мая!», заначыўшы: «У колішняга невядомага салдата-беларуса, які склаў песню, і ў сучаснага паэта-салдата Сяргея Панізніка шмат агульнага — і ў ладзе думак, і ў самой сіле пачуцця».

Тагачасны лірычны герой С. Панізніка паўстае своеасаблівым чалавекам з мірнай ваеннай перадавой. У той жа час ён надзіва адчувае сваю лучнасць з усім жывым, нават адказнасць за тое, каб гэтае жывое не загінула ў пажары новай вайны. Асабліва падобныя матывы выявіліся ў паэтычным рэпартажы «Раён вучэнняў» (з «Палявой пошты»). Усё гэта трэба перажыць самому, каб сказаць так пераканаўча:

**Асколкі ўшыліся ў жарству.**
**Свірэпка—й то расце не густа.**
**Мае абветраныя вусны**
**шукаюць ссохлую траву.**
**А я — зусім жывы салдат.**
**Я толькі ўпаў, бо ў небе — гусі,**
**і слухаю, як плачуць гуслі**
**па выраю непазабыўных страт.**

Гэтаксама ў вершы «У верасовай старонцы» (гэта ўжо з кнігі «Крона надзеі») выразна гучыць матыў той самай адказнасці, але ўжо на новай душэўнай ноце. Лірычны герой бачыцца адначасова і салдатам, паўсядзённая служба прымушае якога да сабранасці, строгасці, і чулым чалавекам, што просіць рэха «цішыню зберагчы». А як хораша гучаць заключныя радкі твора: «Я трымаю на пагонах цішыню. Я тваёй надзеі, бору, не зманю. І духмяныя паляны, і святло чырвоных зор — сцеражэ мой насцярожаны дазор»!

Згаданыя вершы прыцягвалі чытацкую ўвагу яшчэ і па той прычыне, што ў сучаснай беларускай паэзіі не сказаць каб шмат было твораў аб сучаснай арміі, яе салдатах і афіцэрах. Аднак пры ўсім не гэтыя вершы фарміравалі мастакоўскі воблік маладога аўтара, выяўлялі яго творчую індывідуальнасць. Няцяжка было заўважыць, што ўсё ж галоўнае для С. Панізніка — заглыбленне ў дзень учарашні, жаданне пасвойму асэнсаваць пэўныя падзеі мінуўшчыны, паспрабаваць суаднесці іх з днём сённяшнім.

З «Палявой пошты» і пачынаецца ў С. Панізніка чарговы этап у асэнсаванні гераічнага мінулага. Ужо не толькі і не столькі самі падзеі хвалююць яго, колькі вабіць жаданне высвеціць маральныя ўрокі з учарашняга: «А засталася дабрата. І засталося наша слова, і ад мяча крыжака злога прыстольных замкаў галата. Такія беды — і не сніць, ды не звялося наша племя. І конніка ліхога стрэмя яшчэ звініць, яшчэ звініць! Няроўны пераважыў час, няроўна і тварылі людзі... А як жа заўтра нас асудзяць, ацэняць нас?!».

Усё больш упэўнена падступае паэт да прачытання жыцця гістарычных асоб — дзеячаў нацыянальнай культуры, пісьменнікаў, — тых, хто заўсёды, нават у самыя неспрыяльныя часіны не забываўся, што ён беларус.

Адзін з такіх вершаў — «Сяргею Палуяну». Хочацца працытаваць яго цалкам, бо твор гэты характэрны для панізнікаўскіх, умоўна кажучы, вершаў-партрэтаў:

**Званы не званілі і Кіеў не плакаў.**
**Паклаў дабравольна свой голаў на плаху.**
**А хто зразумеў, як ты волю асіліў?**
**Мо толькі Максіме...**

**Званы не званілі. Стагнала Радзіма.**
**Суцішся, далёкі, бо ты не адзіны,**
**хто так за народ свой няўмела загінуў,**
**і памяць журботную краю пакінуў.**
**А Кіеў не плакаў, бо правы ты, правы...**
**І сёння нялёгка ад гэтае праўды.**

Імкнучыся да праўды, разумеючы, што толькі на яе вагах, гэтаксама як і на шалях сумлення, можна вызначыць значнасць здзейсненага папярэднікамі і перададзенага наступнікам, С. Панізнік неадназоава заглыбляецца ў падзеі сівой мінуўшчыны і нядаўняй гісторыі. У яго творах «жывуць» С. Палуян і Ф. Скарына, П. Мядзёлка і Ц. Гартны, Цётка і П. Багрым, П. Шэйн і К. Каліноўскі, М. Гусоўскі і Я. Драздовіч. Прытым, асобныя з іх прысутнічаюць у некалькіх вершах. У такім паўторным звяртанні паэт бачыць і духоўную патрэбу, і грамадзянскі, пісьменніцкі абавязак, клапоцячыся, каб праўда заставалася праўдай, хоць часам — «і сёння нялёгка ад гэтае праўды».

С. Панізнікам зроблена зусім нямала для асэнсавання гістарычнай праблематыкі. Аднак — будзем шчырымі — ці сказала крытыка сваё важкае слова пра здзейсненае аўтарам за амаль што трыццаць гадоў (так, так, бо свой першы верш С. Панізнік апублікаваў у 1959 годзе)? Пасля рэцэнзіі В. Рагойшы былі часцей за ўсё толькі невялікія водгукі. Падтрымаць — добра, абнадзеіць — яшчэ лепш. Ды хто з творцаў не прагне большага? Дарэчы, наконт гэтага ў С. Панізніка ёсць выдатны верш «Пакідайце слова на дабрыдзень», які падказаў назву адной з яго кніг «Слова на дабрыдзень»:

**І ў журбу прамень усмешкі прыйдзе;**
**Крыўдзе заступіцеся грудзьмі!**
**Пакідайце слова на дабрыдзень,**
**на сустрэчу новую з людзьмі.**

**Хоча слова не прыбою злога,**
**не маўчання гневу на вякі:**
**на дабрыдзень пакідайце слова,**
**на яднанне ў поціску рукі.**

**Перад светам, бы святлом,**
**вы станьце —**
**быццам кроны, быццам карані...**
**Слова на дабрыдзень пакідайце,**
**на лучво душы і дабрыні.**

Дзеля чаго гэта згадваю? Не ведаю, як верш «Пакідайце слова на дабрыдзень» успрымаюць іншыя, але мне ў радках бачыцца і папрок самой крытыкі. Так сказаць, маўклівы папрок. Папрок у тым, што яна сёння вельмі ж ахвотна і шчодра раздае авансы кожнаму, хто напісаў хоць бы адзін твор, у якім крануўся гістарычнага мінулага. У такой уважлівасці, канечне, нічога благога няма. Але ж аванасаванне авансаваннем, а перш за ўсё трэба мець на ўвазе канкрэтна здзейсненае. А між тым, калі ўжо гаварыць аб прадаўжальніках традыцый Уладзіміра Караткевіча ў нашай паэзіі, нельга не назваць С. Панізніка. І не толькі С. Панізніка-паэта, а, калі глядзець шырэй, дык і публіцыста, даследчыка, якім нямала зроблена, каб узнавіць многія малавядомыя факты з нашай мінуўшчыны. Асабліва плённа працуе ён на ніве беларуска-латышскага пабрацімства.

Ды паэзія — перадусім. Захопленасць гісторыяй з улюбёнасці ў матчына слова, са здольнасці адчуваць яго на слых і нават «на смак», як у вершы «З-пад аснежаных крон»: «Прыйшоў на платформу прыгарадны з-пад аснежаных крон. Людзі вясёлыя, прыткія ўзгамаілі перон. Словы жывыя, вясковыя, смачныя, нараспеў... Можа, каму — аскоміна, а я ачужэць не паспеў...»

Там, дзе захопленасць, аглядкавасці няма. Недагаворак — таксама. Сама душа прагне споведзі, узаемаразумення. Так і хочацца радасцю, якая поўніць грудзі, падзяліцца з іншымі. Гэта добра заўважаецца ў вершы «Гукаю вясну», напісаным яшчэ тады, калі многія пагардліва ставіліся да гэтага даўняга народнага звычаю:

**І памкнулася сэрца маё**
**напярэймы адчайнаму слову:**
**ой, гукае, гукае вясну**
**нездаўнелая песня Прыдзвіння...**

У вершаваную тканіну твора хораша ўпісваюцца фальклорныя матывы, ды так проста, ненавязліва, натуральна, што адразу заўважаеш: без іх паэт ніяк не мог абысціся: «І прыпомніў, як гэта я сам тры сады гарадзіў, тры садочкі, ажно тры пасадзіў я там зёлкі... Адна зёлачка — рута-мята, і чырвоная ружа — другая, ну, а трэцяя выйшла крапіўніка... Толькі я павярнуся — як ізноў укалюся».

Памятае С. Панізнік, што «слова стала памяццю вякоў», не забывае — «згубіць — не мудра. Удзячліва — знайсці». Таму і вабіць яго фальклор, адначасова звяртаецца паэт да духоўнага вопыту, які перадалі нам у спадчыну вялікія папярэднікі. «Мы шлях настаўнікаў завучваем — ад Вязынкі, ад Куранёў...» — гэта гучыць нават па-свойму афарыстычна, ды сказана аўтарам яно не дзеля прыгожага слова.

Хто пастаянна сочыць за творчасцю С. Панізніка, не мог не заўважыць, што яго паэзія далёкая ад мудрагелістай квяцістасці. У аўтара не сустрэнеш ні кідкіх эпітэтаў, ні нечаканых параўнанняў. Надараецца, праўда, калі-нікалі і так, што гэта прыводзіць да пэўнай прыземленасці, прастата сям-там ператвараецца ў спрошчанасць. Паэт не сягае далей самога ўзнаўлення пэўнай з'явы, падзеі. Існуе і небяспека самапаўтору. У цэлым жа прыхільнасць да традыцыяналізму робіць добрую паслугу. Аўтар дакладна схоплівае самі рэаліі жыцця, што важна ў творах, у якіх узнаўляюцца пэўныя падзеі ці гаворыцца пра канкрэтных гістарычных асоб. Да ўжо згаданых вышэй вершаў можна дадаць «Сын Ярылы», «Над вежамі Полацка», «Пад зоркай...» і шэраг іншых.

Паэт жадае аднаго: каб не зачарсцвела «душа — акрайцам хлеба на стале недагледжаным». Адсюль — і яго пастаянны зварот да мінулага, і патрэба далучыцца да нерушавасці мовы, і спроба асучасніць старадаўнія звычаі і абрады (добра ўдалося гэта ў кнізе паэзіі «Жыцень», адрасаванай старшакласнікам, у якой С. Панізнік звярнуўся да аднаго з міфалагічных вобразаў беларускага фальклору Жыценя, радцы сейбіта, працаўніка. Гаворка набыла канцэптуальны характар, на першы план выйшлі развагі аб агульначалавечых праблемах). Відаць, у гэтым жаданні пастаяннага маральнага і духоўнага ачышчэння трэба шукаць і зварот паэта да падзей Вялікай Айчыннай вайны. Хоць нельга цалкам адмаўляць і чыста грамадзянскага, пісьменніцкага абавязку расказаць пра мужнасць народа, суаднесці гераізм нядаўняга мінулага з падзеямі, якія адбываліся вельмі даўно і засведчылі веліч духу нашых продкаў, іх пастаянную гатоўнасць адстойваць родную зямлю ад чужынцаў.

Паэма «Толькі адно імя...», вершаваны цыкл «Дубровенскае аколле» — тое найбольш значнае, што С. Панізнік паспеў ужо сказаць пра мінулую вайну. (Важкія набыткі яго, дарэчы, і ў галіне дакументальнай прозы).

«Памяці порах перамінаю... Край непакорны ў с п а м і н а ю»... У гэтым прызнанні ўсведамленне таго, што зварот да мінулага дае магчымасць лірычнаму героювы ачысціцца ад таго неабавязковага, наноснага, выпадковага, што, на жаль, калі-нікалі дае аб сабе знаць у мітуслівасці будняў. У памятных жа саракавых «сышліся расстрэлы, вісельні, аўчаркі, і нашыя сцяжкі... рады» («З адданай кагорты»).

Сяргей Панізнік — з тых, хто «пераплаўляе» будні ў паэтычныя радкі, ведаючы, памятаючы, што паэзія — наўкола, толькі трэба яе здолець заўважыць, пачуць: «Дзень перайшоў у словы і радкі, у новыя станкі завода, у поціск таварыскае рукі, у знамянальную падзею года...». Адначасова яго паэтычная муза працівіцца «падказцы» збоку, ён, як і кожны сапраўдны творца, не можа пісаць па заказу, бо высокамастацкія вершы — гэта заўсёды тое, што нараджаецца ў самой душы.

У сувязі з гэтым нельга не прыгадаць і верш «Паэты ўгаворваюць любіць дзяцінства кут...», у якім закранаецца ўжо іншы аспект — непрыманне агаленай дэкларацыйнасці, павучання. Сапраўды, калі не хочаш, каб цябе павучалі, не станавіся сам у позу павучальніка:

**Любіць ці не любіць — змушаць не трэба.**
**Як можна сыну лепш за сына стаць?**
**Як можна хлебу лепшым быць ад хлеба?**
**Такая ўжо ўрадзілася любоў,**
**што — прымусовай —**
**проста быць не можа...**
**У расе звіняць іскрынні родных слоў**
**і любяць нас...**
**І любяць нас!**

...Хай жа будзе «слова на дабрыдзень».

Алесь МАРЦІНОВІЧ.

# Перад памяццю сейбітаў...

ДЗІВІЦЦА трэба, што толькі на 70-м годзе існавання Савецкай Беларусі мы змаглі па-сапраўднаму, у больш-менш поўным выглядзе выдаць літаратурную спадчыну аднаго з нямногіх прадстаўнікоў беларускай літаратуры XIX ст., вельмі самабытнага і цікавага нашага паэта Янкі Лучыны. Ды што ж — лепш позна, чым ніколі. І яшчэ адно суцяшэнне: кніга яго твораў выйшла ў выдатным афармленні, яе прыемна ўзяць у рукі. Вельмі добра, што складальнік томіка Уладзімір Мархель побач з усімі вядомымі беларускімі вершамі Янкі Лучыны ўключыў у кнігу таксама яго польскамоўныя (у перакладзе на беларускую мову) і рускамоўныя паэтычныя творы, а таксама пераклады з Уладзіслава Сыракомлі і Адама Асныка, нарысы, лісты. Чытаеш усе гэтыя творы, якія нібы вяртаюць нас у атмасферу даўно адшумелага часу, якія раскрываюць перад намі нейкія новыя, невядомыя грані гісторыі народа, расказваюць пра высокія памкненні яго такой яшчэ нешматлікай інтэлігенцыі, і думаеш: як збядняем мы сябе духоўна, трымаючы за сямю замкамі нашу культурную спадчыну, як марудна і скупа, як бессістэмна выцягваем яе з няпамяці.

*Але я не маю намеру рабіць* тут усебаковы разгляд творчай спадчыны Янкі Лучыны (сваё слова даўно ўжо сказала пра яго творчасць наша літаратуразнаўства), не буду гаварыць і пра структуру самога выдання (яна, па-мойму, *не павінна выклікаць пярэчанняў*). Я хачу толькі выказаць свае меркаванні наконт перакладаў польскамоўных твораў Янкі Лучыны на беларускую мову.

Як вядома, пачынальнікі новай беларускай літаратуры амаль усе былі двухмоўныя (а часам і шматмоўныя): яны, як правіла, пісалі не толькі на беларускай, але і на польскай мове (на рускай — толькі як выключэнне, і то пад канец XIX ст.). Галоўная прычына такога раздваення — адсутнасць сталага беларускага друку, беларускіх перыядычных выданняў. На працягу амаль усяго XIX ст. на Беларусі па інерцыі панавала ў культурнай сферы польская мова. Такая ўжо наша гісторыя. Але і ў сваіх польскамоўных творах пісьменнікі «ўсходніх крэсаў» былой Рэчы Паспалітай расказвалі пра свой край, імкнуліся паказаць душу свайго народа, змагаліся за яго права «людзьмі звацца». Таму гэту польскамоўную літаратурную спадчыну (яна часта пераважала беларускамоўную) пачынальнікаў літаратуры ніяк нельга нам ігнараваць, абыходзіць бокам. Яна таксама павінна быць у цэнтры нашай увагі, павінна ўключацца ў кнігі гэтых пісьменнікаў. Але для таго, каб беларускі чытач па-сапраўднаму ацаніў гэтую творчасць, каб яна натуральна ўпісвалася ў скарбніцу нашай культуры, нам трэба добра паклапаціцца пра дастойны пераклад яе на беларускую мову. Паспешлівасць, усялякая неахайнасць пры перакладзе проста недаравальныя перад памяццю гэтых бескарыслівых сейбітаў добрага і светлага.

---

Я. Лучына. Творы. Мінск. «Мастацкая літаратура», 1988.

*Над перакладамі польскамоўных твораў* Янкі Лучыны працавалі Мікола Арочка, Рыгор Барадулін, Уладзімір Мархель, Генадзь Тумаш і Іван Чыгрын.

Скажу адразу: я не супастаўляў пераклады з арыгіналамі. Хацелася толькі паглядзець, наколькі натуральна гучаць яны па-беларуску, на роднай мове аўтара гэтых твораў. Дакладнасць жа перакладаў іх пакінем на сумленні саміх перакладчыкаў.

З усіх перакладаў твораў Янкі Лучыны лепшымі мне здаліся — пяра Р. Барадуліна. Для прыкладу прывяду толькі адзін з іх — верш «На юбілей Ажэшчыхі»:

**Містрыня наша! Люд увесь з пашанай**
***Табе зламжыў удзячнасці даніну,***
**Каб лаўр заслугі і хвалы адданай**
**Вянчаў Цябе вякам для напаміну.**

**Ты праўды ідэал, красою ўбраны,**
**Герб працы, дабрыні узор з узораў,**
**Бальзам збавення кожны з нас на раны**
**Бярэ і браў з Тваіх руплівых твораў.**

**Палац, варштат, і гмахі, і паветкі,**
**Дзе мова польская яшчэ жывая,**
**Бяруць Твае і каласы, і кветкі,**
**Твой вольны заклік край наш паўтарае.**

**Удзячнасцю Табе народ з'яднаны,**
**Твой вобраз шчырым словам знакаміты,**
**У горадзе над Свіслаччу сабраны**
**Вянок з зямляцкіх галасоў прымі Ты.**

Кожнае слова тут на месцы, радкі чытаюцца *лёгка*, без «прымусу». Яны выдатна перадаюць аўтарскі настрой, думку. І такія — ўсе барадулінскія пераклады, а іх у кнізе нямала.

Асобна хачу скіраваць увагу чытача на беражнае стаўленне Р. Барадуліна да Лучынавай творчасці. Перакладчык не асучаснівае яго вершы, не падганяе іх пад сваю манеру. Наадварот, ён заўсёды трымаецца строгай класічнай формы верша, характэрнай для гэтага паэта. Р. Барадулін не пашкадаваў часу нават на такую «дробязь», як захаванне характэрнай для класікі дакладнай рыфмы, чаго, на вялікі жаль, не скажаш ні пра аднаго з усіх астатніх перакладчыкаў польскамоўных твораў Янкі Лучыны. Праўда, Р. Барадулін часам адступае ад правіла — у яго перакладах можна знайсці і складаную, а то і «мадэрновую» рыфму (у сне даў — снедаў, ідушчы — душы, гадамі — загадае і інш.). Але ж гэта такія выключэнні, якія кампенсуюцца блізкім сугуччам рыфмаваных слоў і ўспрымаюцца вельмі натуральна, незаўважна, ніяк не парушаючы творчую манеру Янкі Лучыны.

Пераклады М. Арочкі, таксама, як і барадулінскія, выразныя па сэнсу, у іх даволі стройная і строгая, як гэта і трэба, фраза, дакладнае слова. І я назваў бы іх бездакорнымі, калі б перакладчык падбаў пра гучанне сваіх перакладаў. На жаль, чытаюцца яны далёка не так лёгка і натуральна. І перш за ўсё таму, што надта ж часта спатыкаешся тут аб рытмічны збой. Атрымаўся ён, як відаць, ад таго, што М. Арочка не пазбег памылкі, якую мы вельмі часта робім пры перакладзе польскамоўных твораў: механічна пераносім у беларускі верш элементы характэрнага для польскай паэзіі сілабічнага вершаскладання з яго свабоднай рытмікай у радку. Другая прычына немілагучнасці Арочкавых перакладаў — прыблізнасць рыфмы. М. Арочка цалкам ігнаруе характэрную для Янкі Лучыны дакладную рыфму, перакручваючы яе, як толькі хоча. Вось прыклады Арочкавай рыфмы, якую і рыфмай наўрад ці можна назваць: водная — усходу, купу — пурпур, праменнай — пекная, жаваронка — затокай, дзічка — *кліча, задумёна — запалоняць,* мілых — хвіляй, ціхая — келіха і г. д.

Важнасць захавання формы верша Я. Лучыны добра разумее У. Мархель. У сваіх перакладах ён ужо не дапускае такога, як у М. Арочкі, рытмічнага збою. Відно таксама імкненне У. Мархеля захоўваць і Лучынаву рыфмоўку. На жаль, толькі імкненне, бо вельмі часта перакладчыку нестае цярпення быць у гэтым паслядоўным.

*Самы вялікі па аб'ёме польскамоўны* твор Янкі Лучыны «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся» пераклаў Г. Тумаш. Як відаць з тэксту твора, перакладаць ён можа. Перакладчык імкнецца адшукаць жывое, каларытнае слова, якое памагае *стварыць адпаведны настрой,* намаляваць карціну. Вось невялікі ўрывак з твора:

**«Як рады дасць тады**
**Жыхар, якога жывяць Чорныя Ляды,**
**Калі за венік нават, што цяпер дармовы,**
**Плаціць павінны грошы!.. А кантракту ўмовы**
**Калі падпіша?..**
**Год ад году і канец,**
**Не толькі знікне звер у нас, але й глушэц.**
**А прыйдзе час, што й качкі не заб'еш на свеце,**
**Што на драздоў і дзятлаў будзеш ставіць сеці,**
**Цьфу!» —**
**Разважаў так Грышка розумам сваім,**
**Аблічча, постаць, світкі крой казалі ўсім,**
**Што з продкамі Палесся ён лучба жывая**
**І, як дзіця прыроды, з ім не парывае,**
**Выхоўвалі яго імшарыны, чарот,**
**Разліваў далі, душагубкі, што з калод...**

Як бачым, і класічную форму вытрымлівае перакладчык. Вытрымлівае, калі гэтага хоча. На вялікі жаль, такіх адпрацаваных як след, вытрыманых па ўсіх правілах перакладчыцкага майстэрства радкоў у Г. Тумаша ўсё ж мала. Калі чытаеш «Паляўнічыя акварэлькі...», ствараецца ўражанне, што перакладчык надта ж спяшаўся ў сваёй рабоце, не клапаціўся аб гучанні радка, аб тым, каб знайсці патрэбнае, дакладнае слова для перадачы пэўнай думкі. Чытач раз за разам спатыкаецца аб нязграбныя, нейкія бязладныя, са складанай, не характэрнай для нашай мовы інверсіяй, так-сяк скляпаныя фразы, да сэнсу якіх бывае цяжка дакапацца. Часам радкі нагадваюць сапраўдны рэбус. Вось, напрыклад, пачатак раздзела «Першае маё паляванне на ласёў»:

**Папуску (?) даўшы паляўнічай раз ахвоце,**
**Страляў (хто? — К. Ц.) калісь чачотак, вераб'ёў. на плоце.**
**Стары пабачыў Грышка, йшоў кудысь сабе,**
**Сярдзіта плюнуў ды сказаў быў у журбе...**

Ці ўзяць такія перакладчыцкія «перлы» Г. Тумаша: «...то ж пан сюды прыбыў з прысохлай скурай да пашчэнкаў з места» (47), «...і не відаць акрэсу, нас куды загоніць навукі грунт» (48), «На дзіды тураў калісь сілу мелі браць» (49), «На санях, на Палессі гэткія адным, балотам едзь сабе...» (51), *«а конь прыстане, ўнікне ўся яго мага»* (52), «...віліся на дарозе карані лясной» (57), «Змест кожнай («карцінкі на сцяне».—**К. Ц.**) без повязі» (58), «Каня пастаўлю, сена мушу даць, і ў рух» (58), «Ды вось здаля трымаліся ад іхняга ўсе хаты роду» (66), «...мядзведзяняты тушы, як відаць, малой, след кажа» (67—68), «Татава налезла на вушы шапка, голаў

## Кнігапіс



У. ВЕРАМЕЙЧЫК. Клянуся Прыпяццю. Паэзія. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.

**Назва кнігі Уладзіміра Верамейчыка ў многім вызначае яе змест. Лепшыя вершы, паэмы з папярэдніх аўтарскіх зборнікаў «Прыпяць», «Яснасць», «Люблю» — прызнанне ў любові роднай зямлі, людзям, з якімі не адзін год жыве поруч паэт, настаўнік па прафесіі. У той жа час У. Верамейчык вяртаецца да падзей Вялікай Айчыннай вайны, суадносячы дзень учарашні з сённяшнім.**

# ...І той мяцежны Брэхт

Бертальд Брэхт — фігура вельмі складаная і супярэчлівая. Нарадзіўшыся ў заможнай сям'і нямецкага бюргера, дзе панавалі педантызм і добрапрыстойнасць, ён «становіцца ў рады збяднелых». Яго характару, дзёрзкаму і мяцежнаму, быў чужы дагматызм, адкуль бы ён ні зыходзіў. У жартаўлівых успамінах паэт аб зараджэнні свайго бунтарства пісаў так: «За час майго дзевяцігадовага знаходжання ў кансерваваным стане ў Аўгсбургскай рэальнай гімназіі мне так і не ўдалося колькі-небудзь істотна садзейнічаць разумоваму развіццю маіх настаўнікаў. Яны ж няспынна ўмацоўвалі ў мяне імкненне да гультайства і незалежнасці». Гэтае імкненне да незалежнасці Брэхт пранёс праз усё сваё нялёгкае і неспакойнае жыццё.

---

Б. Брэхт. На шалях праўды. Вершы і песні. Пераклад з нямецкай мовы, прадмова і заўвагі Лявона Баршчэўскага. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.

У пачатку 20-х гадоў ён атрымлівае прэстыжную літаратурную прэмію Клейста за п'есу «Барабанны бой уначы». Паэтычную ж славу прынёс яму выдадзены ў 1927 годзе зборнік «Дамашнія казані Бертальда Брэхта». Праз год «Трохграшовая опера» заваявала яму сусветную славу драматурга. І прыкладна ў гэты ж час Брэхт прыходзіць да марксізму. Потым наступае пятнаццацігадовы перыяд эміграцыі, таму што фашысты не даравалі Брэхту сацыяльную накіраванасць ягоных твораў. Яго вершы і п'есы былі такія вострыя і нетрадыцыйныя, што выклікалі сумненні і спрэчкі. Спрэчкі гэтыя не спыняюцца і зараз, праз 32 гады пасля смерці пісьменніка.

Вось такога складанага, супярэчлівага паэта і пераклаў на беларускую мову Лявон Баршчэўскі.

Ірваныя, «мітуслівыя» вершы Брэхта, напісаныя далёка не «паэтычнай» мовай, уяўляюць вялікую цяжкасць для перакладу. *Падобная гарадская і газетна-публіцыстычная* лексіка, на жаль, пакуль недастаткова распрацавана ў беларускай мове. І гэта не магло не адбіцца на якасці перакладу некаторых твораў. Часам у перакладчыка не хапае «духу», і асобныя вершы, перакладзеныя верлібрам, гучаць занадта празаічна, як, скажам, «З нямецкай азбукі вайны». Часам сустракаецца і проста слабая рыфмоўка, як у вершы «Песня пра вадзяное кола».

Аднак трэба ўсё ж адзначыць, што галоўная рыса перакладаў Л. Баршчэўскага — гэта гранічная блізкасць да арыгінала. Перакладчык змог знайсці неабходныя сродкі для перадачы пачуццяў і думак паэта па-беларуску:

**Прыгожым днём у верасні блакітным**
**Прыцішана, між слівін маладых,**
**Трымаў я ціхае сваё каханне,**
**Як мару, у абдымках у сваіх.**
**Над намі воблака ў нябёсах сініх,**
**Бялейшае за белы снег плыло:**
**Яго я ўбачыў, ды прайшла хвіліна —**
**І неба зноў чысцюткае было.**

Пераклад гучыць лёгка, ненатужна, даходліва для кожнага чытача. У кнізе «На шалях праўды» ёсць шмат вершаў, якія ў СССР перакладаюцца ўпершыню. («Адкрыццё, што я

скрыўшы ўвесь гарэзы» (78), «Хто ў лесе з паляўнічых, калі надзеі не губляе таямнічай (?), у стане спраціўляцца ўражанням жывым, на месцы ў час аблавы стоячы сваім» (80) і інш., і інш.

Думаю, каменціраваць іх няма патрэбы.

Бывае, перакладчык, не падумаўшы як след над радком, проста жывасілам пхне ў яго слова, якое туды ніяк не лезе. А каб яно ўсё ж неяк стала там, даводзіцца яго перакручваць, абсякаць, калечыць. І вось па Лучынавым творы гуляюць словы-калекі, накшталт «спраціўляцца» («супраціўляцца»), «раптова» («раптам», «раптоўна»), «глушны» («глухі»), «ночнай» («начной») і г. д.

У. Мархель у сваёй прадмове да кнігі адносіць «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся» да лепшых твораў нашай літаратуры і мяркуе, што іх «можна паставіць у такі гістарычна перспектыўны рад выдатных твораў, як «Песня пра зубра» М. Гусоўскага і «Пан Тадэвуш» А. Міцкевіча». Сапраўды, паэма Я. Лучыны вельмі багатая сваім зместам, у ёй рэалістычна раскрываюцца многія бакі народнага жыцця Беларусі, маляўніча расказваецца пра нашы традыцыйныя паляўнічыя, ды і не толькі паляўнічыя звычаі. Але даводзіцца з вялікім шкадаваннем канстатаваць, што паэма Я. Лучыны да беларускага чытача пакуль што не дайшла.

Прадчуваю, што гэтыя мае заўвагі не надта будуць даспадобы Г. Тумашу, а, магчыма, і іншым аўтарам перакладаў. Але ж, мяркую, у рабоце па вяртанні нашай спадчыны мы *павінны быць* вышэй за дробязныя крыўды. Перакладчыцкія пралікі, памылкі могуць быць у кожнага з нас, ніхто ад гэтага не застрахаваны. Нам толькі трэба адкрыта і шчыра гаварыць пра іх, па-сяброўску папраўляць адзін аднаго. Галоўнае — каб са старонак нашых выданняў беларуская мова гучала ва ўсёй чысціні і шматфарбнасці, каб яна сама за сябе агітавала. Кепскі ж пераклад — самая большая яе дыскрэдытацыя. Як і дыскрэдытацыя спадчыны першапраходцаў новай беларускай літаратуры, якія шчыра неслі святло свайго народа, як маглі, абуджалі ў ім гаспадара сваёй зямлі, уласнай долі.

**Кастусь ЦВІРКА.**

---

**зрабіў у маладой жанчыне», «Санет» і іншыя). Але хоць укладанне кнігі рабілася грунтоўна (перакладчык «падняў» 20-томны Збор твораў Б. Брэхта), можна было б даць паболей ранніх вершаў паэта, у якіх менш дэкларатыўнасці і болей шчырасці.**

**А ўвогуле, кніга «На шалях праўды» — не толькі важкі ўклад у справу беларускага мастацкага перакладу, яна ўяўляе каштоўнасць і з другога пункту гледжання. У нашых ВНУ на філалагічных факультэтах мяркуецца ўвесці чытанне курса замежнай літаратуры па-беларуску. А каб студэнты змаглі прачытаць творы замежных аўтараў на роднай мове, трэба ствараць хрэстаматыі. Думаецца, што побач з перакладамі такіх прызнаных майстроў, як В. Сёмуха, Р. Барадулін, Н. Гілевіч, Я. Семяжон, пераклады Л. Баршчэўскага зоймуць адпаведнае месца ў гэтым патрэбным для нас дапаможніку.**

**Якуб ЛАПАТКА.**
г. Наваполацк.

## *Віншуем!*



**Гэтымі днямі спаўняецца 70 гадоў вядомай пісьменніцы, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі БССР Веры ПАЛТАРАН. З гэтай нагоды праўленне СП БССР накіравала ёй прывітальны адрас з пажаданнямі ўсяго самага добрага ў жыцці і літаратуры.**

**Супрацоўнікі «ЛіМа» далучаюцца да гэтага віншавання.**

# ГУКАННЕ ВЯСНЫ

Гаварыць з вамі трэба было б больш важка, стрымана, — стоячы, як і належыць у такі ўрачысты час, год. Але нават зараз не магу адмовіцца хоць на хвіліну страціць ваша пачуццё свойскасці, высокай прастаты, прыхільнасці да мяне — без усялякай на тое падставы, як бывае з мацерамі, якія любяць агулам, не перабіраючы, што якое. І таму гавару да вас, як звычайна, то амаль шэптам, то ўголас.

Людзі, часцей, не патрабуюць ад нас у гаворцы шчырасці, і, нарэшце, як вынік, зусім губляеш тую ноту, якая належыць толькі табе самому. Дзякую вам, што заўсёды выклікалі мяне на споведзь, давалі магчымасць адчуць у сабе жывую душу. Дзякую, што падаравалі мне ў гэтым свеце шчасце адазвацца на чалавечы голас амаль шчэбетам, як у дзяцінстве.

Не памятаю, надзіва, каб зараз вось успомніць, ніводнага вашага слова ў размове, гэта заўсёды нейкая асабістая атмасфера, дакладней, асяроддзе: што б ні зрабіў, што б ні надрукаваў — з цябе цешацца, ты быццам дзіця, як не ў пеляне седзячы. Гэта тая шчаслівая размова-калыханка, што патрэбна кожнаму чалавеку на пачатку творчасці, калі ён майструе хай сабе і табурэт. Любоў дае нам, пачаткоўцам, вышэйшае неба, каб выпрастацца потым у поўны свой рост, дае жыццядзейнае святло, без якога не існуе нават трава, — гэта раскоша, каб, добра ўжо пажыўшы і многае страціўшы, пусціць з паламанага галля атожылкі, выкінуць свой цвет-голас.

Так адчуваеш сябе пасярод вялікага, светлага поля, калі яно пластуе цябе над сабой, дае ўзнёсласць.

«Дабрыня Веры Сямёнаўны — гэта наша народная культура на вышэйшым вітку... Яна мяне сустрэла, калі я пасля вясковага настаўніцтва прыехала ў Мінск, так, быццам толькі гэтага чалавека да сябе і чакала» (Валя Коўтун). А вось Хрысціна Лялько: «У выдавецтва я зайшла тады разам з Бічэль-Загнетавай па нейкіх яе справах, у мяне ў той час яшчэ там спраў не было. І вось Данута: «Зойдзем да Веры Сямёнаўны». Я пачала адмаўляцца з-за ўнутранай боязі, тады боязь перад пісьменнікамі, якіх любіла, жыла ў душы пастаянна. Зайшлі. Шчырая ўсмешка насустрач, нейкая асаблівая сардэчная праменнасць блакітных вачэй. Найбольшае, што ўразіла: Вера Сямёнаўна, пачуўшы маё імя, не проста кіўнула, маўляў, ведаю, а загаварыла пра мае першыя апавяданні, што толькі-толькі з'явіліся ў «ЛіМе», загаварыла нераўнадушна, зацікаўлена, звяртаючы ўвагу на дэталі і слова. Тады я яшчэ не ведала, што так яна чытае ўсіх маладых — па-мацярынску неабыякава, шчыра, рупячыся пра самае важнае — родную мову, літаратуру». Не, не было ў мяне намеру збіраць тут людзей, пытацца пра вас, як кажуць, па хатах ходзячы — само па сабе, выпадкова даведалася. Дзякуючы гэтаму ўпэўнілася ў вашай святой павіннасці: трэба некаму стаяць каля брамы, у варотцах, — сустракаць, пераймаць першапачаткоўцаў, каб домам стала ім уся зямля, увесь свет.

Мы ўсе «прыёмныя дзеці ў горада» (ваш выраз), прыёмныя дзеці ў вас, Вера Сямёнаўна.

Ці ведаеце вы, што, прачытаўшы ваш нарыс «Дзівасіл», я яшчэ задалёка да заклікаў вярнуцца да сваёй мовы пачала пісаць па-беларуску, на мове сваёй маці Вольгі, мове вёскі Грыдзькі на Пастаўшчыне? Ваш «Дзівасіл» пра тое, як казаў дзед Іван у нарысе, што не з'ясі і не зносіш, — пра вечнае. Быццам праз шкельца рознакаляровае, што ўлажылі мне ў руку, усё пасля стала мець колер, сэнс, а дагэтуль знаходзілася глыбока падыспадам. Вы неспадзявана падаравалі мне мой згублены скарб — мову продкаў, той код, па якім я знайшла сваіх герояў, блізкіх мне, як сваякі, людзей. Выглядзеў-такі мяне ваш дзівосны дзівасіл з жоўтай кветкай-галоўкай на доўгай, як у гусачка, шыйцы, у гэтым людскім тлуме... У Святланы Алексіевіч адбыліся пасля прачытання вашага «Дзівасілу» таксама перамены: «Супала тое, што ў нарысе Веры Сямёнаўны, з маім становішчам, я дагэтуль не ведала, як аб'яднаць у матэрыяле: чалавек ужо быццам і гарадскі, інтэлігент, але яшчэ з той моцнай вясковай памяццю... Шчаслівая Вера Сямёнаўна, яе перакананні, прынцыпы не разыходзяцца з жыццём — вось дзе таямніца аўтарытэту».

Калісьці, пабудаваўшы новы дом, запрашалі да сябе бацюшку, каб пасвянціць вуглы, хату — абараніць ад агню, ад усялякай нечысці, — пусціць у сцены святы дух. Ведаю аднаго чалавека, які чакае вас, Вера Сямёнаўна, у новую хату, бо, кажа, многа хто заходзіўся, адны дзівіліся, другія зайздросна маўчалі, а толькі вы можаце шчыра ўсцешыцца, парадавацца за яго.

Невясёлая сёлетняя вясна, сухая, без салодкай слінкі на таючай зямлі — не было зімы, няма дзіцячай асалоды ў прыродзе. Але, як кажа мая суседка Шурачка з Іслачы, калі ўвосень дождж раку не змыў, ліст не сагнаў, то зімы не павінна быць. І адразу пасля яе слоў робіцца спакайней, быццам так яно і трэба. Што ж, станем усе з вамі побач у гэты сакавіцкі дзень, будзем гукаць вясну вясёлую, гукаць птушак да нас, у нашы краі, будзіць дрэвы, ваду, зямлю. Ваш голас будзе самы першы сярод нас, самы чуйны — самы дарагі.

**Марыя ВАЙЦЯШОНАК.**

## *Прэстыж роднай мовы*

# ГРУПЫ, КЛАСЫ, ШКОЛЫ...

**У МІНСКІМ ГАРКОМЕ ПАРТЫІ АДБЫЛАСЯ ЧАРГОВАЯ НАРАДА, НА ЯКОЙ ІШЛА ГАВОРКА АБ ПАШЫРЭННІ ЎЖЫТКУ РОДНАЙ МОВЫ.**

**На нараду былі запрошаны сакратары райкомаў, загадчыкі раённых аддзелаў народнай адукацыі, выкладчыкі ВНУ, работнікі культуры, гандлю, грамадскага харчавання і спорткамітэта. Прысутных азнаёмілі з вынікамі пашпартызацыі беларускамоўных класаў, з той работай, якая вядзецца ў горадзе па адкрыцці беларускамоўных школ. І галоўнае, дзеля чаго сюды і былі запрошаны прадстаўнікі розных сацыяльных сфер, — падрыхтоўка да бюро гаркома партыі, якое мяркуецца прысвяціць пытанням, звязаным з сённяшнім станам роднай мовы.**

**Паводле інфармацыі інструктара ГК КПБ В. Кавалеўскай, на сёння ў горадзе існуе 17 першых, 3 другія і 5 з трэцяга па шосты беларускіх класаў. Усяго ў паўтарамільённым горадзе навучаецца на роднай мове 258 вучняў. Апрача класаў, у горадзе адкрыта 67 беларускамоўных груп у дзіцячых садках, колькасць іх мяркуецца падвоіць. Ёсць намер у ГІУН адкрыць курсы павышэння кваліфікацыі выхавацеляў, якія працуюць на роднай мове. Вывучэнне беларускай мовы як прадмета вырашана зрабіць у школе абавязковым і ўвесці ўступныя экзамены па беларускай мове ў педагагічных ВНУ. Разам з тым В. Кавалеўская адзначыла, што былі цяжкасці з забеспячэннем беларускамоўных класаў падручнікамі, тэхнічнымі сродкамі, да гэтага часу адчуваецца дэфіцыт навукова-метадычнай літаратуры. Не спрыяе справе адраджэння беларускай мовы і залішняя асцярожнасць, з якой ужываюць *яе кіраўнікі народнай адукацыі*, дырэктары школ і дзіцячых садкоў, зазначыла В. Кавалеўская. Дарэчы, гэтую выснову яшчэ раз пацвердзіла на нарадзе выступленне загадчыцы Галоўнага ўпраўлення народнай адукацыі (ГУНА) Мінгарвыканкома Т. Драздовіч. Выклікае неўразуменне, што, агітуючы бацькоў вучыць дзяцей на роднай мове, і сама загадчыца і яе намеснік Р. Махнач беларускай мовай не карыстаюцца.**

**Слушнай выглядае прапанова, якая высоўвалася не адзін *раз не толькі на гэтай нарадзе*, але і на ўсіх пасяджэннях, прысвечаных развіццю білінгвізму, аб тым, што агітацыя за беларускамоўныя школы павінна падмацоўвацца аўтарытэтам улад. Да прыкладу, старшыня гарадскога бацькоўскага камітэта (аб яго стварэнні паведамлялася ў «ЛіМе») І. Чарняўскі ў сваім выступленні зазначыў, *што справа выглядае так*, быццам мы займаемся больш прыхарошваннем сітуацыі з беларускай мовай у школе, чым яе выпраўленнем. Ён меў на ўвазе наступнае: у друку ў якасці станоўчых зрухаў прыводзяцца ў прыклад так званыя двухмоўныя школы і школы з паглыбленым вывучэннем беларускай мовы і літаратуры. Аказваецца, што двухмоўнымі школамі называюцца тыя, дзе існуе хаця б адзін беларускамоўны клас. А гэта значыць, 20 дзяцей (больш у беларускамоўных класах рэдка калі бывае), якія гавораць на роднай мове, сярод 1000, якія карыстаюцца мовай рускай. Што ж да паглыбленага вывучэння, то, аказваецца, яно заключаецца ў тым, што ў 7 класе павялічваецца на 1 гадзіну ў тыдзень колькасць урокаў беларускай мовы.**

**Канешне, праблемы вырашыць могуць толькі беларускамоўныя школы. Ужо завершаны 1 этап працы па адкрыцці такіх школ. Мяркуецца, што ў горадзе іх будзе мінімум 9. Аднак, як сказаў І. Чарняўскі, вынікі гэтай працы ў параўнанні з высілкамі — мізэрныя. Справа магла б пайсці значна лягчэй і лепш, калі б да яе падключыць сродкі масавай інфармацыі, хаця б той жа «Вячэрні Мінск». Дало б вялікі плён і зберагло б шмат сіл і *энергіі і настаўнікаў і дырэктараў* школ выступленне з агітацыйным зваротам да насельніцтва прадстаўнікоў улады, хай сабе і не самага высокага рангу. Да прыкладу, намесніка старшыні гарвыканкома П. Кішкурны. Аднак, думаецца, маюць рацыю і тыя, хто на пасяджэннях у ГУНА, моўнай камісіі БФК неаднаразова падкрэслівай, што грамадскасць чакае праніклёнага шчырага слова, падмацаванага рэальнымі гарантыямі, скажам, ад Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Г. С. Таразевіча.**

**Прагучала на нарадзе і прапанова стварыць для агітацыі цэнтралізаваную ініцыятыўную групу, у якую ўвайшлі б студэнты, прадстаўнікі грамадскасці, абавязкова людзі неабыякавыя, зацікаўленыя справай адраджэння роднай мовы. Праўда, са слоў загадчыцы ГУНА вынікае, што такія групы ўжо існуюць. У гэтыя групы (а створаны і працуюць яны па раёнах) уваходзяць дырэктары школ, завучы, настаўнікі, прадстаўнікі ГБК, — усяго каля 10 чалавек у кожнай. Але, як я даведалася, існуюць і працуюць гэтыя групы хутчэй фармальна.**

**Выкладчыца педінстытута імя М. Горкага Н. Гаўрош заўважыла, што не ўсе бацькі гатовы павярнуцца тварам да справы адраджэння роднай мовы, і што многае ў гэтай сітуацыі залежыць ад настаўніка. Сакратар гаркома П. Краўчанка, які, дарэчы, і вёў пасяджэнне, зазначыў, што над гэтай праблемай павінна працаваць уся грамада, што ў бліжэйшы час неабходна абмеркаваць праграму, створаную моўнай камісіяй БФК, якая, на жаль, дасюль так і не надрукавана.**

**Гаворка ў выступленні П. Краўчанкі вялася ў асноўным аб падрыхтоўцы да згаданага бюро гаркома партыі. Справу гэтую даручана ўзначаліць члену гаркома В. Зуёнку. Акрамя таго, вырашана стварыць некалькі даследчых груп з прадстаўнікоў гаркома і грамадскасці. *Але калі прадстаўнікі* ТМЛ «Тутэйшыя» былі ўключаны ў групу, якая зоймецца кнігарнямі і бібліятэкамі, то пра «талакоўцаў» чамусьці зусім забыліся. А, між тым, менавіта «талакоўцы» ці не больш за ўсіх на сёння прычыніліся да адраджэння роднай мовы.**

**І апошні штрых. На пытанне аб тым, ці будзе беларуская мова дзяржаўнай, П. Краўчанка адказаў: «Я веру, што беларуская мова будзе мець дзяржаўнасць, і псіхалагічна нам трэба рыхтавацца да гэтага».**

**Галіна ТЫЧКА,**
**наш кар.**

## Паэзія

**Максім ТАНК**

### Просьба аб даравaнні

*«Калі Чарнобыль успрынялі як агульную бяду... паўтарэнне якой будзе крушэннем веры, стратай надзеі на тое, што ў нас ёсць будучыня».*

М. САВІЦКІ.

Амаль кожнага
Ў апошнюю дарогу
Праводзяць
Няўцешныя сваякі,
Зажураныя сябры,
Спачувальныя суседзі.

У залежнасці
Ад рангу памершага
З ім развітваюцца
То са слязамі,
То з прамовамі,
То з салютам.
Нават калі
Хавалі Камара,
Які, зваліўшыся з дуба,
Забіўся,
На паніхідзе лясны хор
Спяваў рэквіем:
«Ой, у лесе, ў гушчары...»
А вось,
Калі хавалі
Забітую Чарнобылем Зямлю,
Былі толькі далакопы,
Бульдозеры
І вянкі з калючага дроту,
Якія ўсклалі моўчкі
На магільны камень
З надпісам:
«Небяспечная зона».
Каб не прыйшоў хто
І на радаўніцу
Зацепліць свечку,
Памаліцца за пакутніцу,
Птушыную асірацелую сям'ю
Пачаставаць.

Даруй нам, грэшным
І неразумным,
Маці!

●

Калі апаў першы ліст на
зямлю,
Я падумаў: сарваў яго вецер.
Калі апаў другі ліст на маю
далонь,
Я падумаў: мо захацеў
пагрэцца.
Калі ж апаў трэці ліст на
сэрца,
Я зразумеў: набліжаецца
восень.

### Месячнай ноччу

Зноў месячная ноч.
Яе чакалі
У квецені сады,
Салаўі.
А я чаго яе чакаў?
Здаецца, ўспомніў,
Каб у цябе спытаць,
Хто з нас больш вінаваты:
Ці ты, стварыўшы свет,
Ці я, не змогшы
Яго ўратаваць?

### Прызнанне варвара

Ты крыўдзішся
За мае моцныя
Абдымкі, пацалункі.

Прызнаюся
У варварстве сваім,
Бо я — з тых мужыкоў,
Якія — можа, чула? —
Толькі рукам
Сваім вераць
І з адлегласці
Не ўмеюць захапляцца.

●

Паверыў бы, што некалі ты ў
сне
З'явілася неспадзявана мне.

Але я помню, як у прысак траў
Пад навальнічнай завірухай
паў.

І дотык чулых тваіх рук
святых,
Якімі рвала хустку на бінты.

І чую твайго голасу павеў:
— Ну, да вяселля рана зажыве.

Вярнуць бы трэба падарунак
твой.
Ды дзе той адрас пошты
палявой?

●

Ты кажаш, не помніш, якой
Была ў маладосці сваёй.

Магу прыгадаць, што была
Ў жыцці маім промнем святла.

Была найдзіўнейшаю з яў,
Калі я цябе мілаваў,

І найпрыгажэйшай з усіх
У шчаснай чароўнасці міг.

Калі над калыскай твой спеў
Парой вечаровай гучэў.

### Апакаліпсісны

За першай сарванай пячаткай
Я ўбачыў трагедый пачатак.

Навошта ж мяне спакусіла
Змяінай цікавасці сіла,

Сарваць па чарзе аж да сёмай,
Нікому яшчэ невядомай?

А зараз стаю нерашуча
Прад будучыняй немінучай.

### Сухастоіна

Чуецца скрып,
Быццам нехта недзе
На непадмазаных
Калёсах едзе,
Ці на мыліцах кульгае.
Можа, трэба памагчы
Каму выбрацца з гаю?
Прыслухоўваюся.
І бачу:
Во яна —
Віноўніца трывогі —
Сухастоіна.
Аб чым яна жаліцца
Сваім сёстрам-хвоям
На незразумелай
Ім мове?

●

Калі там нейкі Бельзебуб
Пачне, раскрыўшы свой
гросбух,
Шукаць мне адпаведнай кары
За ўсе мае грахі і мары,
За ўсе вар'яцкія надзеі, —
Скажу:
— Шукаеш ты дарма.
Ў цябе такіх пакут няма,
Якімі б не караў сябе я.
Што твой смуродлівы агонь!
Глядзі!
Яшчэ я да яго
У сэрцы перуны насіў,
І покуль стану зноў зямлёй
Я песняй роднаю сваёй
Дашчэнту вусны спапяліў.

### На дзяды

Перад дзесятай стравай,
раптам,
Нясуць яшчэ гароху латку,
Каб камары парою летняй
Не дакучалі нам, падлеткам.
І мы даўжэй за ўсіх, пад
поўнач
Ім частаваліся.
Ты помніш,
Пакуль на дне гарачай латцы
Не абняліся нашы пальцы,
І цябе маці не пазвала,
Каб спаць ішла — пара настала.
Пара, бо ўжо ў паўночны
шэрань
Дзяды прыходзілі вячэраць.

На вуліцы сабакі брэшуць,
І нехта шашкае ў падстрэшшы,
Нібыта снег з ног абівае.
Прымай іх, матухна святая,
у той час, калі ў Гародні быў
Давыд.

---

*Нам засталася спадчына...*

# ПА ПРЫНЦЫПЕ «НАША» І «ВАША»?

**У лістападзе мінулага года студыя «Эфір» Беларускага тэлебачання паказала прэм'еру тэлеспектакля «Давыд Гарадзенскі», пастаўленага рэжысёрам Н. Гаркуновай паводле аднайменнай п'есы В. Іпатавай.**

**Асоба «вялікага старасты Гародні», бясспрэчна, вядома тым, хто цікавіцца беларускай гісторыяй. Аднак п'еса В. Іпатавай — першая за многія гады спроба па-мастацку асэнсаваць пэўныя падзеі далёкага XIII стагоддзя праз вобраз гарадзенскага ўдзельнага князя Давыда.**

**Прэм'ера не прайшла незаўважанай. Аднак спектакль ацэньваецца вельмі і вельмі неаднозначна. У прыватнасці, М. Багадзяж у артыкуле «Ці верыць п'есе?» («Советская Белоруссия» за 11 студзеня 1989 г.) з пазіцый гісторыка цалкам адмаўляе драматургічны твор, а разам з ім — і спектакль. Існуюць, аднак, іншыя меркаванні. Адно з іх належыць маладому літаратару В. Чаропку, артыкул якога тычыцца не толькі ўласна п'есы В. Іпатавай, але і існуючых увогуле падыходаў у ацэнцы падобных твораў.**

У нас на Беларусі склалася традыцыя: як толькі з'яўляецца мастацкі твор, нарыс або нататкі на гістарычную тэму, якія парушаюць усталяванае ўяўленне пра мінулае, адразу са старонак рэспубліканскага друку чуюцца воклічы «прафесараў і дактароў» ад гісторыі: «Як наважыўся аўтар! Не адпавядае гістарычнай праўдзе! Ерась!» і г. д.

Прачытаўшы «мнение» М. Багадзяжа «Ці верыць п'есе?» («Советская Белоруссия» за 11 студзеня 1989 г.) — пра п'есу Вольгі Іпатавай «Давыд Гарадзенскі», падумаў, што традыцыі гэтай яшчэ наканавана жыць «долгие лета».

Багадзяж не ўспрымае створаны ў п'есе вобраз Давыда Гарадзенскага. Але ці варта адмаўляць такую трактоўку гэтага вобраза толькі на падставе таго, што яна не супадае з тваёй асабістай? Ці варта кідаць дакор у адрас В. Іпатавай, якая не стварыла «самабытны і непаўторны вобраз Давыда?» Аўтарка і не ставіла, пэўна, мэты паказаць нам Давыда Гарадзенскага ва ўсіх жыццёвых праявах, стварыць гэткі манумент князя-воя «крепкого во бранех», кананізаваць яго ў нашай свядомасці. За гучнымі перамогамі, за подзвігамі і славай Давыда драматург убачыла перш за ўсё чалавека, які сумняваецца, пакутуе, памыляецца. Але ва ўсім гэтым адчуваецца той рашучы, мужны і таленавіты гарадзенскі ваявода, імя якога наводзіла жах на нямецкіх і дацкіх рыцараў.

Нельга пагадзіцца з Багадзяжам, які лічыць, што Гарадзенскі ў п'есе «пасіўны назіральнік, які за ўвесь спектакль не прыняў ніводнага рашэння, ніяк не ўздзейнічаў на падзеі». Але ж менавіта Давыдава непрымірымасць да крыжакоў, недавер да Юрыя, нашчадка, як высветлілася, знатнага нямецкага роду, штурхнулі апошняга на самагубства — у ім кульмінацыя сюжэта.

Бянтэжыць і тон, якім гісторык выказвае сваё меркаванне. Ён нібыта і шчыры, але, разам з тым, і нейкі занадта раздражнёны.

Прыёмы, з дапамогай якіх гісторык спрачаецца з драматургам, даўно вядомыя: гэта вышукванне з лупай гістарычных недакладнасцей, каб давесці аўтарскую недасведчанасць. Мэта — падарваць у чытача веру ў гістарычную праўдзівасць твора, а разам з тым паставіць пад сумненне і яго мастацкія вартасці. Дзіўна, аднак жа атрымліваецца так, што гісторыку трэба тлумачыць тое, што павінен ведаць вучань: навуковая праца і мастацкі твор на гістарычную тэму — гэта не адно і тое, і крытэрыі ацэнкі іх зусім розныя. Калі для навуковай працы важныя і неабходныя даты, лічбы, факты, дакументы, дык у мастацкім творы аўтар — калі ён толькі не займаецца пераказам падзей мінулага, а імкнецца асэнсаваць жыццё народа ў пераломныя і складаныя моманты, падымаецца над фактамі, датамі і лічбамі,—бачыць перш за ўсё трагедыю народнага жыцця, асобны чалавечы лёс, праз які прыходзіць да сцвярджэння агульначалавечых каштоўнасцей. Таму ён можа свядома не заўважаць вядомых фактаў, ігнараваць іх, нават пераносіць дзеянне ў творы з аднаго часу ў другі.

М. Багадзяж самым сур'ёзным чынам разглядае п'есу В. Іпатавай як навуковую гістарычную манаграфію, у якой аўтар скажае «достоверно установленное», напрыклад, той факт, што «...з таго часу, калі ў Гародню быў прысланы намеснік Гедыміна князь Давыд, горад ні разу не быў узяты ворагам—гарэлі толькі драўляныя прадмесці вакол яго». Але ж таксама вядома даставерна, што Давыд быў пастаўлены ваяводам у Гародні не Гедымінам, а ягоным братам вялікім князем Літоўскім Віценем. Вядома, што горадам лічыўся не толькі княскі замак, якім і сапраўды пры Давыдзе крыжакі не авалодалі, але і «окольный град», які крыжакі палілі ў 1305 і 1306 гадах — у той час, калі ў Гародні быў Давыд.

Нельга пагадзіцца з гісторыкам, калі ён сцвярджае, што Давыд «прыбыў да Гедыміна (а ў той час вялікім князем быў Віцень, і да яго на службу паступіў Давыд.—В. Ч.) амаль што жабраком: ні грошай, ні моцнага заступніка, ні імя, ні славы». Цяжка ўявіць, каб Даўмонт, адзін з найбагацейшых феадалаў Літвы, былы валадар Нальшчанскай зямлі, які трыццаць гадоў княжыў на пскоўскім пасадзе і меў сваю баявую дружыну, быў жабраком і, не пакінуўшы свайму адзінаму сыну ні граша, адправіў яго на Радзіму. Прыбыў Давыд да Віценя, відаць, усё ж з бацькоўскім срэбрам і часткай ягонай дружыны. Забываецца М. Багадзяж і на тое, што за спіной у Давыда стаяў Пскоў, які хацеў бачыць яго на сваім пасадзе. Якога яшчэ «моцнага заступніка» хацелася б убачыць гісторыку?

Тым часам старажытная беларуская зямля была зацікаўлена ў мірным саюзе з Псковам, у падтрымцы з ім гандлёвых сувязей, якія дапамаглі б прарваць эканамічную блакаду Ордэна і разам змагацца супраць яго. Паспрабуй Віцень нялітасціва абысціся з Давыдам, і Пскоў з сябра мог стаць ворагам. Віцень — вопытны палітык, неабдуманых крокаў не рабіў. Мы не ведаем, дзеля чаго прыбыў Давыд на радзіму свайго бацькі. Не ведаў сапраўдных ягоных намераў і Віцень, таму і пабойваўся нечаканага госця: а што, калі Давыд збіраўся распачаць барацьбу за бацькоўскую спадчыну — Нальшчанскую зямлю? Вынікі такой барацьбы Віцень мог прадбачыць: у той час лілася кроў у між-

Не крыўдзяцца хай, небаракі
На нашы сціплыя прысмакі...
У свечачы лучына тлее.
Ноч. За акном шуміць завея.

## Песня

Лес часамі
Загараецца ад перуна,
Любоў — ад мімалётнага
позірка,
Сляза — ад болю...
І толькі песня,
Як алімпійская паходня,
Загараецца ад сонца —
Ад сонца ў сэрцы.

## Хадзіла мая бабка

Хадзіла мая бабка
Па святых мясцінах,
Прасіла ў бога хлеба,
Прыплоду скаціне,
Шчасця і здароўя
Неразумным дзецям,
Згараваным людцам
На ўсім белым свеце.
Знаць, ёй сёе-тое
Выпрасіць удалося.
А пра што забыла,
Так і засталося.
Так і засталося
У забыцці суровым,
Як крыж на пагосце,
Ці як наша мова.
А пайсці прасіць зноў
Грэшнікам убогім,
З нас ніхто не знае
Бабінай дарогі.

## Час

Нарэшце завітаў да нас
Чаканага вяртання час.

Вяртання з зім —вясны ветроў,
З блукання — выраю дамоў,

З маўчання—мовы да нямых,
З выгнання — праўды да
жывых,

З нябачнасці —да віднаты,
З пякельных брам—ахвяр
святых.

Прымі ж хлеб-соль з маёй
рукі,
Час, блаславёны на вякі.

●

Каб лягчэй было ў дарозе,
Трэба на ўсіх указальніках
Замест кіламетраў
Напісаць:
«Ідзіце!
Не аглядайцеся,
Бо жыццё яшчэ —
Перад вамі».

## Экалогія

Як толькі ў маленстве
Сяк-так навучымся хадзіць,
На гэтым, звычайна,
І канчаецца адукацыя.

А мы, прызнацца,
Хоць і мінулі
Тысячагоддзі,
Не ўмеем хадзіць
Так, як дні і ночы,
Звяры і птушкі,
Вятры і дажджы.

Няўжо не бачыце,
Як яе здраталі,
Вытапталі,
Пакалечылі?

А яшчэ збіраемся
Такія ж сляды пакінуць
І на іншых планетах.

## Барана

Гэта была ўжо даўно
Адпраўленая на пенсію
Дзедаўская барана,
З пашчапанымі
Ветрам і дажджамі аглоблямі,
З пашчарбанымі
На камянях зубамі,
І нажыўшая дыхавіцу
Ад пылу,
І глухату — ад панукання.
Куды яе?
Падарылі буслам,
Якія цяпер кожную вясною
Пад зорны пасеў
Барануюць неба
Над нашай хатай.

---

Ганарар за вершы аўтар просіць пералічыць на рахунак № 702903 — на будаўніцтва помніка ахвярам сталінскіх рэпрэсій у Курапатах.

---

усобнай вайне паміж ім і Пелузе. Таму Давыда літасціва прынялі на Беларусі. Віцень наблізіў яго да сябе, аддаў ва ўладу Гародню, ажаніў з Гедымінавай дачкой, і гэты шлюб, верагодней за ўсё, быў палітычным крокам, разлічаным на тое, каб праз блізкае сваяцтва прымусіць Давыда быць верным вялікакняскаму дому. І М. Багадзяж наўрад ці мае рацыю, сцвярджаючы, што Гедыміну «гэта жаніцьба была зусім невыгоднай».

Не вынікае з п'есы і тое, што князь і княгіня — ворагі, як гэта здалося гісторыку. Так, у спектаклі няма відочных «парфумных пачуццяў», але гэта не азначае, што муж і жонка ненавідзелі адзін аднаго.

Можна таксама не пагадзіцца з меркаваннем гісторыка, што «ў Валгаллу — гэты своеасаблівы «рай» у старажытных германцаў і скандынаваў — жанчыны не траплялі». Жанчыны ў Валгалле жылі. Тыя ж Валькірыі — яны што, былі мужчынамі? У літаратуры пра германскую і скандынаўскую міфалогію гаворыцца не пра мужчын, а пра вояў-герояў, якія пасля гераічнай смерці траплялі на Валгаллу, а воем-героем магла быць і жанчына. Як вядома, Валькірыі па волі Одына забіралі самых адважных з загінуўшых вояў на Валгаллу. І ў тым, што маці Юрыя (Зігфрыда) трапіла на Валгаллу, няма ніякіх недакладнасцей.

Нічога дзіўнага не знаходжу і ў тым, што пра Валгаллу кажа «хрыстовы воін». Нельга ўспрымаць гісторыю так дагматычна, каб на пытанне «Няўжо гэты «хрыстовы воін» у душы заставаўся язычнікам?» адразу адмаўляць магчымасць падобнай з'явы. Няўжо гісторык шчыра лічыць, што немцы не памяталі сваёй старажытнай міфалогіі? Памяталі, вера ў былых багоў не была падарвана, і часта паганскія ўяўленні ва ўмовах хрысціянства атаясамліваліся з хрысціянскімі. Яскравы таму прыклад — атаясамліванне беларусамі паганскага бога падзямелля Пекла з хрысціянскім «адом». А нагадаем, як часта звяртаўся да язычніцкіх матываў аўтар «Слова аб палку Ігаравым». Не трэба забывацца на тое, што паганства ў той час было жывой рэальнасцю, і крыжакам прыходзілася сутыкацца з ім нават у сваім жыцці. І калі гісторык М. Багадзяж добра ведае гісторыю Лівонскага ордэна, дык павінен памятаць, у чым абвінавацій крыжакоў рыжскі капітул: менавіта ў пераймanні ад язычнікаў многіх паганскіх традыцый і звычаяў — чарадзейства, гаданне, дабіванне параненых у баі таварышаў, спальванне загінуўшых на вогнішчы. Вядомы і выпадкі пераходу крыжакоў на бок прусаў і літоўцаў і прыняцця язычніцтва. Так што можна дапусціць і такі «парадокс» — «вой хрыстовы» мог быць у душы язычнікам. А ад сапраўднага хрысціянства крыжакі былі вельмі далёкімі, і не вера хрыстова іх цікавіла, не распаўсюджанне «вінаградніка гасподня», а новыя землі, вораг, нявольнікі. Аб якім тут хрысціянстве казаць?

На заканчэнне, як і належыць, трэба падвесці вынік спрэчкі з гісторыкам. Самай вернай высновай было б пажаданне М. Багадзяжу ды ўсім беларускім гісторыкам не дзяліць з пісьменнікамі гісторыю па прынцыпе «наша — ваша», а разам несці яе праўду да народа, які так чакае сваёй, няхай сабе суровай і трагічнай, гісторыі.

**В. ЧАРОПКА.**

# І адкрыліся далягляды...

## НАРОДНЫ УНІВЕРСІТЭТ «РОДНАЕ СЛОВА» Ў НАВАПОЛАЦКУ

У ПЕСНІ гэтай, як і ў кожнай, свае штрыхі лёсу. Спачатку быў верш Навума Гальпяровіча. Потым з'явілася мелодыя Людмілы Касьянавай. І вось на занятках народнага універсітэта «Роднае слова» гучыць:

**Я — вучань! Мне настаўнік**
**загадаў**
**Вучыць на памяць рэкі, хмары,**
**дрэвы,**
**Імжу і слоту, сонца і залевы,**
**І кроплі свет, адкуль пайшла**
**вада.**

**Я — вучань. Птушкі пішуць мне**
**У тонкі сшытак даўнія імёны...**

На тых занятках народнага універсітэта, якія я наведаў лютаўскім вечарам у Наваполацку, вядома ж, гучалі не толькі песні. Імі заканчвалася амаль трохгадзіннае пасяджэнне.

Пачалося ж яно з лекцыі, дакладней, з прачулай пісьменніцкай споведзі, бо лекцыяй гэта не назавеш. Разам з усімі слухачамі я ўспрыняў яе як палымянае натхнёнае слова У. Арлова, які ў той вечар якраз прыехаў з Мінска ў родны горад да сяброў, з якімі год назад вырашылі стварыць курсы па вывучэнні беларускай мовы, гісторыі і культуры.

Тады, 30 сакавіка мінулага года на заняткі прыйшло ўсяго сем чалавек. Хто мог падумаць, як зменіцца ўсё за такі кароткі час.

**Ірына ЖАРНАСЕК, член Саюза пісьменнікаў БССР: Мы тады не разгубіліся і вырашылі — будзем працаваць, колькі б чалавек ні збіралася. Справа ж не ў колькасці. І вось сёння нас ужо каля шасцідзесяці.**

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, карэспандэнт Белдзяржтэлерадыё, паэт: Цікавасць да курсаў расла вельмі хутка. Да нас прыйшлі не толькі беларусы — прыйшлі людзі розных нацыянальнасцей, якіх у Наваполацку каля пяцідзесяці.**

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ, кандыдат філалагічных навук, паэт-перакладчык: Калі ўбачылі, як многа збіраецца аматараў роднага слова, мы, арганізатары і кіраўнікі, вырашылі ўтварыць некалькі груп у залежнасці ад таго, на якой ступені валодання мовай знаходзяцца нашы навучэнцы.**

Практыкум па мове павялі яны ўтрох. Хто з больш сталымі знаўцамі, хто з пачаткоўцамі. Практыкаванням надавалі асаблівае значэнне: дыктоўкі, падрыхтоўка рэфератаў. Многа ўвагі аддавалі вымаўленню. Увесь час шукалі новыя формы і метады навучання, каб не былі заняткі сухімі і сумнымі. Рабілі пасярод лекцый хвіліны паэзіі, музыкі, выяўленчага мастацтва, праводзілі экскурсіі, абмеркаванні. Але, бадай, найбольш цікавымі і запамінальнымі былі сустрэчы з дзеячамі літаратуры і мастацтва, гісторыі і культуры.

Надоўга запомніцца той дзень, калі на курсах гутарыў з навучэнцамі Янка Брыль. Іван Антонавіч падзяліўся думкамі аб сучасным літаратурным працэсе, цікава ўзнаўляў старонкі літаратурнага мінулага Беларусі.

У розны час на курсах выступалі прафесар А. Грыцкевіч, паэт А. Вольскі. С. Тарасаў вёў археалагічныя раскопкі ў Полацку і таму пра гістарычныя падзеі гэтага краю расказваў на аснове сваёй работы. Гісторык П. Лойка раскрыў старонкі жыцця беларускай вёскі ў VI—VIII стагоддзях.

Калі паўстала пытанне аб тым, што пара рыхтаваць кадры сваіх лектараў, выявілася: многія здольны самі гэта рабіць. І вось ужо Л. Баршчэўскі дасціпна і паэтычна расказвае пра беларускае адзенне і побыт, быццам усё жыццё рыхтаваўся стаць этнографам. С. Сокалаў-Воюш прысвячае свае словы паэта і музыкі К. Каліноўскаму. Пра гісторыю беларускага выяўленчага мастацтва вядзе гаворку С. Цімохаў. Н. Гальпяровіч аналізуе публіцыстычныя творы, пачынаючы ці не ад самога Скарыны. А І. Жарнасек прыадчыняе заслону над мінулым беларускага тэатра.

Аднойчы Я. Лапатка, настаўнік і перакладчык, прывёў госця — фінскамоўнага паэта з Петразаводска Тойва Флінка. Загучалі вершы па-фінску і ў перакладзе на беларускую мову.

Часта сюды, у цэнтральную наваполацкую бібліятэку імя У. Маякоўскага, дзе збіраюцца навучэнцы, прыходзяць цэлымі сем'ямі. Урач Т. Касьміна прыводзіць дзвюх дачок. Можна тут сустрэць мужа і жонку Гуткіных. Яна — пастаянная слухачка курсаў. А Якаў Барысавіч нядаўна падрыхтаваў у СШ № 9 літаратурную кампазіцыю па вершах беларускіх паэтаў.

Што прывяло сюды людзей розных узростаў і прафесій? Можна было б адказаць коратка: любоў да беларускага слова, да гісторыі і культуры Беларусі.

Хачу даць і слова самім навучэнцам.

**Алесь СВІРСКІ, студэнт музычнага вучылішча: Я вырас у вёсцы на Браслаўшчыне. Бацькі гаварылі па-беларуску. І тут, у горадзе, мне хацелася размаўляць на роднай мове. Але, на жаль, у вучылішчы гэта аказалася немагчымым. Вось і пайшоў на курсы, калі даведаўся пра іх. Цяпер тут у мяне новыя сябры і ўсе магчымасці размаўляць з імі па-беларуску.**

**Васіль ЗДАНОВІЧ, таксама з музычнага вучылішча: У маёй вясковай школе была добрая настаўніца беларускай мовы. Дзякуючы ёй я адкрыў цудоўны свет беларускай літаратуры — паэзію Аркадзя Куляшова, нашых землякоў Пімена Панчанкі, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Вярцінскага. Здаецца, і не вучыў іх вершы — яны самі запамінаюцца. На курсах амаль за лічаныя месяцы перада мной адкрыліся такія далягляды, аб якіх раней і не марыў.**

**Леанід СЫС, інжынер-праграміст, «Палімір»: Мяне прывёў на курсы... Уладзімір Караткевіч. Так, так... Яго гістарычныя творы проста захапілі па-сапраўднаму. І пад іх уплывам захацелася больш і глыбей ведаць гісторыю Беларусі, яе выдатных дзеячаў мінулага, пра якіх ніхто з настаўнікаў нават не ўпамінаў на ўроках у школе.**

**Вадзім БАРАНОЎСКІ, інжынер-праграміст, «Палімір»: Мы сапраўды мала ведаем родную гісторыю. А паколькі я не гуманітарый і вучуся ў політэхнічным, для мяне аказаліся невядомымі таямніцамі многія старонкі і гісторыі, і літаратуры... Цяпер дзякуючы курсам, як бы даганяю тых, хто вучыўся на гуманітарных факультэтах.**

**Алесь АРКУШ, журналіст: Я скончыў таксама політэхнічны. Летась у «Бібліятэцы часопіса «Маладосць» выйшла мая першая кніжачка вершаў «Вяртанне». Хачу глыбей ведаць беларускую гісторыю і мастацтва. Рыхтую сваю першую лекцыю, якую прачытаю ў хуткім часе на занятках.**

**Андрэй МАРЦІНКЕВІЧ, слесар аўтапарка: Мяне сюды прывёў забаўны выпадак. Сынава настаўніца папрасіла, каб я вёў у школе тэхнічны гурток. А за гэта паабяцала вызваліць сына ад вывучэння беларускай мовы... Гэта вельмі ўразіла мяне. Я нават пакрыўдзіўся... Прайшоў час. Цяпер я і гурток вяду, і сына не вызваліў. І сам вывучаю мову, на якой гаварылі мае бацькі. Так што няхай і іх унук не цураецца роднай мовы. Добра, што ёсць такія курсы.**

Прыемна чуць такія словы кіраўнікам курсаў. Хочуць толькі і навучэнцы, і кіраўнікі, каб не забываліся пра іх і ў абласным цэнтры, і ў сталіцы рэспублікі, каб прыязджалі, дапамагалі і словам і справай. Бо ўзнікае і нямала праблем: няма для такіх курсаў спецыяльных праграм і падручнікаў, патрэбны выкладчыкі шырокай кваліфікацыі і лектары, якія б глыбока маглі аналізаваць гістарычныя падзеі ў родным краі, патрэбна дапамога мовазнаўцаў, літаратуразнаўцаў.

І, вядома ж, не толькі на словах павінны быць за такія курсы партыйныя і савецкія работнікі. Пакуль што наведвае заняткі толькі сакратар Наваполацкага гаркома партыі В. Д. Фралова. У той дзень, калі я наведаў курсы, была там і загадчык аддзела культуры гарвыканкома Н. М. Любімцава. Хочацца спадзявацца, што за імі пойдуць і іншыя.

І яшчэ. Хочацца верыць, што на прыкладзе наваполацкіх курсаў арганізуюцца яны і ў сталіцы, і ў абласных гарадах, і ў райцэнтрах...

Сяджу на занятках наваполацкіх курсаў, якія цяпер ужо называюцца сур'ёзней і дакладней — народны універсітэт «Роднае слова». Расказвае пра жыццё і дзейнасць вядомай беларускай асветніцы Ефрасінні Полацкай У. Арлоў, аўтар гістарычных аповесцей і апавяданняў пра сівую даўніну роднай зямлі. За яго расказам, здаецца, на вачах ажываюць гістарычныя падзеі. І зусім побач з навучэнцамі, аддаленая ад іх стагоддзямі, устае Ефрасіння Полацкая.

А потым гучаць песні. Іх выконвае метадыст аддзела культуры Людміла Касьянава, якая, дарэчы, прыехала сюды з Расіі, з Пензы. Але ў аснове амаль усіх яе песень — беларускія радкі вершаў сяброў-навапалачан: ці то «Аблокі» Алеся Аркуша, ці «Кастрычніцкі вальс» Адама Міцкевіча ў перакладзе Лявона Баршчэўскага, ці «Я — вучань» Навума Гальпяровіча.

Пранікнёна і шчыра лунаюць над залай радкі:

**Я — вучань. Мне настаўнік...**

Гэты настаўнік — у самым шырокім і сімвалічным сэнсе — родная зямля, яе гісторыя, культура, родная мова.

**Давід СІМАНОВІЧ.**

**Дагаджаць я мушу і ва ўсім**
**цярплю:**
**Кнігі ў Празе я калісьці**
**друкаваў,**
**Кнігі з Прагі ў Беларусь**
**перапраўляў.**

**Наш кароль не наш! Даўно**
**я зразумеў.**
**Вось таму і чэшскага сабе**
**займеў.**
**Кветкі замест кніг цяпер**
**гадую я.**
**От і маю хлеб, і мае хлеб**
**сям'я.**

**Полацку майму і ўсёй маёй**
**зямлі**
**Ад мяне паклон.**
**Хай луснуць каралі.**
**За плячмі — гады, і надта**
**не люблю**
**Давяраць свой лёс чужому**
**каралю.**

---

Аўтар пераводзіць ганарар на рахунак № 702 Беларускага фонду культуры на помнік Ф. Скарыне ў Мінску.

сутнасці, ён быў высокапрафесійным наймітам, якому ўсё роўна, супраць якога народа змагацца — чужога ці нават свайго. Галоўнае, каб плацілі добрыя грошы. Таму ён і злаваўся на Сталіна, са смерцю якога скончыўся «жалезны век», а «майстэрства» яго, Івана Савіча, зрабілася непатрэбным.

Тым не менш Івана Савіча ніколі не пакідаў «здаровы» аптымізм. Ён і ў час сустрэчы з Кузняцовым на сваёй дачы заставаўся ўпэўненым у сваёй патрэбнасці: «Сёння — на пенсіі, а заўтра, калі што, зноў ворагі чарода ці касмапаліты, мы — тут. А такіх кадраў нідзе ў свеце яны не знойдуць — моладзь хоць і адукаваная, але так працаваць не ўмее, у нас вопыт. Мы, як кажуць, мірныя людзі, але наш бронецягнік стаіць на запасным пуці. Мы і ёсць гэты бронецягнік...»

І вось тут Кузняцоў з ім не пагадзіўся. Няўжо зноў лагеры і пакуты мільёнаў людзей? Хіба мала было крыві ў тым мінулым жалезным веку? «Ваш бронецягнік, паважаны Іван Савіч, ужо адышоў і больш на нашу станцыю не вернецца», — хацелася мне сказаць яму ад імя Кузняцова. Але ж героі размаўлялі ў шасцідзесятыя гады, і бронецягнік яшчэ чакаў свайго часу на запасных пуцях...

## Сын Кузняцова, або Пра тое, што ржавець не павінна

**Улада Тырана заўсёды нараджала ў чалавеку жаданне лётаць — не ад добрага ж жыцця вынайшаў крылы Дзядал. І чамусьці менавіта пра часы Івана Грознага расказаў фільм «Крылы халопа» заснавальніка нашага кіно Юрыя Тарыча... Аднак тыранія параджала і халопаў без крылаў. Карціна «Наш бронецягнік» стала гэтаму сведчаннем. І ў тым, што ў яе фінале галоўны герой кідаецца ў пралёт лесвічнай клеткі, было нешта сімвалічнае. Яго адзіны і апошні ў жыцці палёт зрабіўся і яго пакаяннем, і выкупленнем грахоў, і папярэджаннем сыну...**

**Калі б мяне зараз спыталі, пра што ўсё-такі атрымаўся гэты фільм, я б адказаў, што ён пра небяспечнасць фанатызму і неабходнасць веры. Фанатызм і вера ніколі не былі толькі рэлігійнымі паняццямі. Вера магла быць рознай. Адна служыла чалавеку посахам, другая давала яму крылы. Фанатызм жа заўсёды і паўсюль спараджаў ланцугі і краты. Наяўнасць фанатызму ў грамадстве сведчыла пра адсутнасць веры ў большасці яго членаў. І калі сёння з'явіўся фільм Міхаіла Пташука, мне здалося, што гэты твор дапаможа вярнуць веру тым, каго адвярнуў ад яе металічны бляск фанатызму.**

**Можна запярэчыць, што ў «Нашым бронецягніку» няма ніводнага станоўчага героя, на якога б «хацелася быць падобным», з якога можна «браць прыклад» і г. д. Але ж не забывайцеся пра сына Кузняцова. Дзеля яго веры (якой яшчэ давядзецца вытрымаць выпрабаванне сямідзесятымі гадамі і, магчыма, той «дорогой железною», што «как ниточка тянется») гіне Кузняцоў-старэйшы. І як ні парадаксальна, смерць гэтага па-ранейшаму сумленнага чалавека, які заблытаўся ў жыцці, прымушае верыць, што «той бронецягнік» ужо назаўсёды адышоў у гісторыю. На жаль, у гісторыю нашу.**

**С. ДЗЕМІДОВІЧ.**

---

*З народных крыніц*

# ЖЫВАЯ ДУША ТАНЦА



**15 гадоў назад на канцэртных афішах з'явілася назва «Харошкі». Новы ансамбль вельмі хутка прыцягнуў увагу самых розных гледачоў — і ў сваёй рэспубліцы, і далёка за яе межамі. Сёння ў «Харошак» багата заўзятых прыхільнікаў, ёсць, вядома, і апаненты. Але бясспрэчна, што без яркіх, жыццярадасных выступленняў гэтага ансамбля ўжо немагчыма ўявіць сабе палітру беларускага мастацтва, як немагчыма ўявіць творчасць «Харошак» без сталага кіраўніка — Валянціны Гаявой.**

**Днямі В. Гаявая адзначана высокім званнем народнай артысткі БССР. Гутарку з ёю мы прапануем увазе чытачоў.**

**— Валянціна Іванаўна, у студзені гэтага года «Харошкі» пераступілі 15-гадовы рубеж. Відаць, мастацкаму кіраўніку ансамбля гэта дае права на пэўныя высновы?**

— Можна задаць сабе такое пытанне: ці варта было гэтаму прысвячаць сваё жыццё? Бо, па сутнасці, мне давялося адмовіцца ад многага дзеля, як я называю, «справы ўсяго майго жыцця»... Калі толькі пачынала працаваць, стварала калектыў, я сутыкнулася з тым, што амаль усе ўспрымалі прафесію артыста ансамбля народнага танца як легкадумную, непрэстыжную. Мала таго, спрачаліся, ці мае народны танец права называцца сур'ёзным відам мастацтва. Многія даводзілі, што не. Я ж думаю зусім інакш.

Упэўнена, што народны танец — гэта не толькі сур'ёзны, але яшчэ і высокі від мастацтва, які абапіраецца на сапраўдную народную творчасць, выхоўвае ў чалавеку пачуццё нацыянальнай гордасці, уласнай годнасці. Для мяне народны танец гэтак жа неабходны, як і кожнае іншае мастацтва. Я ніколі не імкнуся адасобіць народны танец, наадварот, арганічнае перапляценне музыкі, спеваў, скокаў дазваляе мне ствараць карціны жыцця народа ў розныя перыяды яго гісторыі.

Яшчэ ў дзяцінстве мне хацелася ажывіць стары, закінуты дом, уявіць, як у гэтым доме жылі людзі, што яны рабілі, чаму радаваліся. Мне хацелася разгледзець іх твары, засяліць руіны жывымі людзьмі. У мінуўшчыне мяне заўсёды цікавілі радасныя, святочныя праявы.

Вось і ў творчасці. Калі мы працуем над новым нумарам, я імкнуся ўзнавіць нейкі пэўны гістарычны перыяд, убачыць людзей гэтага часу: у чым яны хадзілі, што іх хвалявала, як любілі. І ведаеце, у мінулым я знаходжу мноства высокіх маральных ісцін, якія, на жаль, страчаны нашым часам. Адрадзіць гэтыя ісціны і намагаецца наш калектыў.

**— «Харошкі» называюць сябе фальклорна-харэаграфічным ансамблем. Значыць, мае быць фальклорная аснова ў рэпертуары, музыцы, касцюме. Што такое фальклор для вас? І як вы ставіцеся да падзелу фальклору на «сапраўдны» і «прыдуманы»?**

— Што значыць «прыдуманы фальклор»? І што значыць «сапраўдны»? Мне здаецца, многія нават не ўяўляюць сабе, што гэта такое. Чалавеку заўсёды было ўласціва пачуццё творчасці. Спрадвек ён заўсёды ствараў нешта, у тым ліку і танцы, песні, абрады. Не з'явілася ж усё гэта раптам! Нехта ж гэта прыдумаў! Тое ж Купалле, напрыклад. А потым ужо ўсё гэта перадавалася з пакалення ў пакаленне, удасканальвалася, набывала нейкія ўстойлівыя рысы, рабілася фальклорам. У якой ступені гэта можна назваць сапраўдным ці несапраўдным? Для мяне фальклор — гэта тое, што каштоўна. Каштоўна для народа, для нас з вамі.

Але я заўсёды гавару, што фальклор — гэта не архаіка, не старое, не забытае. Ён ёсць і сёння. Я не ведаю, можа, гэта і дзіўна, але для мяне сучасны маладзёжны музычна-песенны рух таксама — свайго роду фальклор. Мне здаецца, што фальклор — гэта праява нейкіх гістарычных, калі хочаце, нават экалагічных момантаў з жыцця народа. Жыццё і фальклор заўсёды непадзельныя.

Калі ж гаварыць пра сцэнічнае ўвасабленне фальклору, то гэта зусім іншае пытанне. Гэта ўжо мастацтва... І вельмі вялікая адказнасць. Што зробіць мастак з наяўным матэрыялам, як паднясе, ці ўбачыць паэзію, высокую маральную чысціню фальклору, ці, наадварот, апошліць, не зразумее яго. Вось што важна.

Тут хацелася б сказаць пра адзінства фальклорнага і нацыянальнага, іх непарыўную сувязь. Кожны народ стварыў свой фальклор: латышы — свой, беларусы — свой. Непахіснасць нацыянальных традыцый, павага да іх заўсёды былі ўласцівы нашым продкам. Для прышлага чалавека было само сабой зразумелым пераняць звычаі карэннага насельніцтва, прыняць яго лад жыцця. Напрыклад, на Беларусі пасяляліся і татары, і башкіры, і іншыя народнасці. Вядома, іх унутраны тэмперамент накладаў адбітак на культуру, якую яны прымалі. Але яны добраахвотна пераймалі мову, адзенне, абрады, звычаі, веру і таксама стваралі фальклор, уласцівы гэтай групе людзей. Пра гэта вельмі важна памятаць цяпер, калі мы гаворым пра захаванне нацыянальных асаблівасцей кожнага народа, пра чулыя адносіны да ўсяго сапраўды нацыянальнага.

**— Валянціна Іванаўна, пастаноўка новага нумара — вельмі складаны, часам пакутлівы працэс, гэтаму папярэднічае вялікая, перш за ўсё ўнутраная праца. Як гэта адбываецца ў вас?**

— Нават не магу растлумачыць, як гэта адбываецца. Бывае, што праз нейкі час я бачу свой нумар нібыта з боку і здзіўляюся. Мне здаецца, што я гэтага прыдумаць не магла. Але гэтак бывае не часта і толькі з лепшымі нумарамі. Большасць жа нумароў я шмат перарабляю, таму што яшчэ не магу глядзець на іх адцягнена, як староннi чалавек. Мне заўсёды хочацца дамагчыся таго, каб кожны танец арганічна ўліваўся ў праграму, адпавядаў ёй па духу, па стылі, каб кожны танцор быў на сваім месцы. Гэта вельмі важна. Часам, з-за няправільнага падбору выканаўцаў, нумар, што называецца, «не ідзе».

Танец павінен хваляваць людзей, выклікаць пэўныя эмоцыі, інакш гэта ўжо не мастацтва. Канечне, перадусім думаю пра тое, што я хачу сказаць новым нумарам і пачынаю збіраць матэрыял. А што кіруе мной? Скажу чэсна — інтуіцыя. Часта тэма ўзнікае раптам, я прыдумваю адну альбо дзве часткі, а потым гэтую ж тэму з невялікімі адрозненнямі знаходзяць у фальклорных крыніцах. Так здарылася з пастаноўкай «Каханачкі». Мне здаецца, што менавіта інтуіцыя кіруе кожным мастаком. Можа, хтосьці мяркуе інакш.

**— На вашу думку, поспех нумара цалкам залежыць ад яго выканаўцы, вы, відавочна, абапіраецеся на індывідуальнасць танцоўшчыка. Гэта — таму, што ў калектыве шмат майстроў ці такі ваш стыль работы?**

— Відаць, гэта стыль. Я б не сказала, што ў «Харошкі» ідуць ужо гатовыя майстры, з ярка выяўленай індывідуальнасцю. Індывідуальнасць трэба рабіць. З кожным танцоўшчыкам неабходна багата працаваць, вывучаць яго магчымасці, памагаць яму раскрыцца як выканаўцу, як чалавеку, нарэшце. І потым, калі ў тым жа «Полацкім сшытку», у танцы рамеснікаў я ўяўляю сабе жывых людзей, вельмі падобных да маіх дзяўчат і хлопцаў, то гэта будзе трапна, нумар атрымаецца.

**— Валянціна Іванаўна, усе 15 гадоў вы займаецеся пастаноўкай танцавальных кампазіцый для «Харошак». Можна гаварыць пра почырк, пра харэаграфічнае бачанне балетмайстра. Але ж непазбежны і *штампы, пэўная аднастайнасць у рухах*. У якой меры паняцце «балетмайстарскі штамп» стасуецца з вашай творчасцю?**

— Складанае пытанне. Напэўна, калі б я стварала «дзяжурныя» нумары, гэта быў бы штамп. Ды для мяне кожны нумар — гэта перш за ўсё душэўнае ўзрушэнне, кожны нумар я прапускаю праз сэрца. Таму тут штампам няма месца.

З другога боку, вы правільна заўважылі, «Харошкі» маюць свой стыль, свой характар, сваю манеру выканання. Нас цяжка зблытаць з якім-небудзь іншым калектывам. Гэта я назвала б асаблівасцю харэаграфіі нашага калектыву.

**— Ваш ансамбль існуе ў пэўным «харэаграфічным асяроддзі». І прафесійным, і самадзейным. Як складваюцца вашы ўзаемаадносіны з іншымі калектывамі?**

— Я з вялікай павагай стаўлюся да самадзейнага мастацтва, можа, нават з большай, чым да прафесійнага. Чаму? Таму што гэта сапраўдныя энтузіясты, імі кіруе адно памкненне: самаўдасканаленне ў эстэтычным плане. Безумоўна, не ўсе маюць здольнасці, добрыя фізічныя дадзеныя, але яны прыходзяць на рэпетыцыю таму, што вельмі любяць мастацтва. Гэта кампенсуе ўсё.

У той жа час я вельмі негатыўна стаўлюся да тых кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці, якія пачынаюць капіраваць прафесіяналаў, пераносіць на самадзейных выканаўцаў нумары прафесійных калектываў. Вось тады ўзнікае тое кан'юнктурнае, фальшывае, паўпрафесійнае мастацтва, якое, апроч шкоды, нічога прынесці не можа.

Мне здаецца, творчасць у самадзейных калектывах павінна быць сапраўднай **народнай творчасцю.** Яна павінна быць сапраўднай, не скапіраванай. Што ж датычыць прафесійных калектываў, дык мне б хацелася, каб гэта былі беларускія ансамблі. Са сваім абліччам, сваім нацыянальным почыркам, каб яны былі пазнавальныя і не падобныя адзін да аднаго.

**— Канцэрты «Харошак» праходзяць з нязменным поспехам. Ці не кружыць ён вам галаву? І ці гатовыя вы падзяліцца сакрэтамі свайго поспеху з іншымі?**

— Ну, па-першае, ніякіх сакрэтаў няма, а, па-другое, я ніколі не адмаўляю, калі хтосьці прыходзіць на рэпетыцыі. Да нас часта звяртаюцца кіраўнікі мастацкай самадзейнасці, мы аказваем метадычную дапамогу, заўсёды гатовыя падзяліцца і эскізамі касцюмаў, і інструментамі. Я хачу звярнуць вашу ўвагу, што многія нацыянальныя інструменты з'явіліся спачатку ў нас, а потым ужо ў ансамблях «Свята», «Жывіца» і іншых. Канечне, яны цяпер могуць мець больш багаты набор народных інструментаў, гэта цудоўна. Але для мяне важна — што першымі гэтым заняліся менавіта «Харошкі».

Скажу вось пра што. Добры самадзейны калектыў ці проста цікавы чалавек могуць навесці на нейкую новую ідэю, падказаць тэму для нумара. Таму мне неабходна сувязь з людзьмі, знаёмства з іншымі калектывамі, так званы «абмен вопытам». А што датычыць поспеху... Я стаўлюся да яго вельмі асцярожна. Не цешу сябе. Пасля канцэрта я заўсёды раблю старанны разбор кожнага нумара, часцяком лаюся, бываю незадаволеная, а дзяўчаты ды хлопцы мне кажуць: «Але ж нам апладзіравалі! Мы такі мелі поспех!» Што б вы ім адказалі на гэта?

**— Я адказала б, што ўсялякі поспех адносны.**

— Сапраўды так... Люблю назіраць за гледачамі, якія не апладзіруюць, але я бачу, што яны суперажываюць. І калі пасля канцэрта гледачы гавораць: «Вы нагадалі маё юнацтва, маю вёску. Заўтра ж паеду туды», вось гэта — поспех. А бурныя апладысменты — гэта, па-мойму, даніна модзе.

**Гутарыла**
**С. ЦІМЧЫК.**

Рэспубліканская выстаўка «Народнае мастацтва Беларусі. Традыцыйныя мастацкія промыслы» працавала два тыдні ў снежні мінулага года. На праспекце Машэрава — вялікая чарга. Яе раўчук цягнуўся, аднак, не да выставачнай залы, а да суседняга, прывабнага дэфіцытнымі ласункамі «Рамонка». Усё ж тысячы дзве мінчан, гасцей сталіцы, замежных турыстаў гэтую выстаўку наведалі.

Пра народнае мастацтва да нядаўняга часу было прынята пісаць у мажорным тоне. Цяпер у нашым жыцці многае мяняецца. Паспрабуем і мы паглядзець на мінулую выстаўку пад іншым вуглом бачання. Выстаўка — не толькі відовішча, свята; гэта матэрыял для аналізу, гэта пастаўленыя пытанні, якія патрабуюць адказу.

У адборы тэкстылю найбольш наглядна адбілася адсутнасць навукова-абгрунтаванай методыкі, стэрэатыпнасць ацэнкі эстэтычнай якасці твораў народнага мастацтва, ігнараванне рэальных з'яў у сучаснай народнай творчасці. Таму на выстаўцы не было паказана вязанне кручком, вышыўка свабоднай шматколернай гладдзю, дэкаратыўныя ласкутныя дываны, тканыя дарожкі, посцілкі і ручнікі, у якіх выкарыстаны нетрадыцыйныя сінтэтычныя матэрыялы.

Адносна такіх вырабаў вясковых майстрых часцей за ўсё гучаць ацэнкі тыпу «кіч», «страта традыцый», «размыванне эстэтычнай асновы народнага мастацтва». Думаецца, жаданне бачыць народнае мастацтва толькі адпаведным ідэалу, незамутнёнаму ва ўстойлівых і звычных рысах, не садзейнічае разуменню працэсаў, якія адбываюцца ў гэтай галіне сучаснай мастацкай культуры.

Нягледзячы на ўсе названыя і неназваныя недахопы, выстаўка публіцы спадабалася. Гледачы пакідалі яе з прасветленымі тварамі, пакідалі словы падзякі ў кнізе водгукаў. Водгукі — гэта словы гонару за Беларусь, за свой народ, самабытнасць яго мастацтва, ацэнка яго як нацыянальнага здабытка, важнага сродку выхавання новых пакаленняў — людзей, якія любяць сваю радзіму, зямлю, на якой жывуць, паважаюць традыцыі продкаў. Гэта сведчанне ўзрослай нацыянальнай самасвядомасці, жадання людзей ведаць вытокі сваёй культуры. У многіх запісах трывога: у Мінску няма музея, які адкрываў бы доступ да багатых традыцый народнага мастацтва.

На выстаўцы штодзённа працавалі народныя майстры, мастацтва якіх выклікала вялікую цікавасць у наведвальнікаў. Найбольш папулярная была Л. Грыгор'ева з калгаса «Памяці Ільіча» Брэсцкага раёна, якая нястомна прапагандавала майстэрства саломапляцення. Нямала было таксама жадаючых паспрабаваць разам з майстрамі Слуцкай фабрыкі мастацкіх вырабаў, Жлобінскай фабрыкі інкрустацыі, мастакамі НДМЭЛ выткаць пояс, інкруставаць саломкай, засвоіць роспіс па дрэве, ручную вышыўку.

# РЭЭКСПАЗІЦЫЯ

**Нататкі пасля выстаўкі народнага мастацтва**

Магчымасці прааналізаваць стан сучаснага народнага мастацтва ў рэспубліцы, яго асобных жанраў і цэнтраў мастацкіх рамёстваў і промыслаў выстаўка не прадставіла. Яна прадэманстравала іншае — нізкі ўзровень арганізацыі, міжведамасную раз'яднанасць у рабоце з народнымі майстрамі, няхватку прафесійных кадраў метадыстаў, а таксама сённяшні ўзровень грамадскага стаўлення да народнага мастацтва, дзе ўсталяваўся стэрэатып пра росквіт беларускай народнай творчасці.

Экспазіцыя была пабудавана па «абласным» прынцыпе, што павінна было б адлюстраваць стан народнага мастацтва ў кожнай з абласцей. Аднак быў дасягнуты іншы вынік — прадэманстраваны прагалы ў арганізацыі работы з народнымі майстрамі ў абласных цэнтрах народнай творчасці, адсутнасць адзінай методыкі адбору экспанатаў.

Толькі раздзел Віцебшчыны досыць поўна паказаў рэальны стан народнай творчасці ў вобласці. Экспанаваліся новыя работы ўжо вядомых майстроў, адбылося знаёмства з новымі самабытнымі імёнамі рэзчыкаў па дрэве А. Асіпковай і Ф. Максімава, ганчара В. Татарыса, пляцельшчыкаў з саломы і лазы В. Гадавальнікава, П. Карэніка, І. Краўчанкі, А. Гапеенкі, ганчара М. Шчокіна, які аднавіў у вёсцы Ляды Дубровенскага раёна вытворчасць абварной «рабой» керамікі.

Другія абласныя раздзелы ў асноўным былі сфарміраваны з работ, якія захоўваюцца ў запасніках цэнтраў народнай творчасці і дэманструюцца ў апошнія дзесяць гадоў на ўсіх выстаўках. Некаторыя з аўтараў гэтых твораў ужо не працуюць з-за пажылога ўзросту, іншых ужо няма ў жывых. Асабліва гэта тычыцца экспазіцыі Мінскай вобласці, у якой былі сабраны толькі музейныя экспанаты — дываны з саломкі Е. Русаковіч, інкруставаныя шкатулкі Р. Хоціна, драўляныя скульптуры Л. Шостака.

Асабліва варта сказаць пра тэкстыль, які дэманстраваўся на выстаўцы. Ткацтва і вышыўка сёння яшчэ актыўна жывуць у народным асяроддзі. Посцілкі і ручнікі вырабляюць не толькі ў знакамітых ткацкіх сёлах — Неглюбцы і Моталі, а амаль паўсюдна ў сельскай мясцовасці. Аднак выстаўлены тэкстыль амаль увесь быў этнаграфічным — класічныя ручнікі музейнага значэння, выробленыя ў пачатку стагоддзя, рэдкія дываны падвойнага ткацтва, вытканыя ў 60-я гады майстрыхамі в. Дзмітровічы Камянецкага раёна на Брэстчыне.

Дазволю ў сувязі з гэтым выказаць думку, што ў рэспубліцы зацягнуўся этап этнаграфічных адносін да народнай творчасці, хоць скажу, што на гэта ёсць аб'ектыўныя прычыны: ідзе фарміраванне асноўных музейных калекцый прадметаў этнаграфіі і твораў народнага мастацтва, вядзецца іх навуковае асэнсаванне. Імкненне захаваць класічныя ўзоры мастацтва беларускага народа прыводзіць да таго, што не заўважаюцца часам тыя з'явы, якія нараджаюцца ў народнай культуры на нашых вачах, адлюстроўваючы сучаснае светаразуменне і светаадчуванне іх твораў.

Колькасны і якасны недахоп прадстаўленых на выстаўцы экспанатаў (дарэчы, яна супала на часе са справаздачнымі мерапрыемствамі абласцей у сталіцы рэспублікі, што было загадзя «спланавана» Міністэрствам культуры) папоўнілі цудоўныя ўзоры народнага касцюма, пляцення, керамікі з фондаў Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і быту.

Асобнай гаворкі заслугоўвае другая частка экспазіцыі, дзе дэманстраваліся вырабы прадпрыемстваў мастацкіх промыслаў сістэмы Мінмясцпрома БССР. У параўнанні з работамі народных майстроў вырабы фабрык часта пазбаўлены трапяткой духоўнасці, нясуць адбітак стандарту, рамесніцкага тыражыравання. Для паказу былі выбраны найбольш самастойныя галіны мастацкіх промыслаў і тыя, што паспяхова развіваюцца,— пляценне з саломкі і лазы, інкрустацыя саломкай, ручное ўзорнае ткацтва, вышыўка. Трэба тут адзначыць работы мастакоў Навукова-даследчай мастацка-эксперыментальнай лабараторыі (НДМЭЛ), якія, абапіраючыся на традыцыйную мастацкую аснову і тэхналагічныя прыёмы беларускай народнай вышыўкі, ткацтва, роспісу па дрэве і шкле, аплікацыі саломкай, ствараюць арыгінальныя мастацкія вырабы для сучаснага інтэр'ера, мадэлі адзення.

Арганізатарамі выстаўкі былі міністэрствы культуры і мясцовай прамысловасці, Белсаўпроф і Саюз мастакоў — усе яны нясуць цяжар клопатаў аб народным мастацтве і мастацкіх промыслах у рэспубліцы. І добра, што, насуперак прымаўцы пра сем нянек, выстаўка ўсё ж адбылася, а самае галоўнае — што народнае мастацтва па-ранейшаму валодае вялікай прыцягальнай сілай, што таленты народныя не вычэрпваюцца.

Выстаўка пераконвала — цікавасць да мастацкіх рамёстваў і народнага мастацтва вялікая. Аб гэтым сведчаць таксама святы народнага мастацтва, ярмаркі работ народных умельцаў, якія сталі ўжо традыцыйнымі ў культурным жыцці рэспублікі. Аднак навучыцца мастацкай рабоце з саломкай, дрэвам, авалодаць тэхнікай ткацтва, ганчарства, прыёмам іншых спрадвечных беларускіх рамёстваў сёння ні ў Мінску, ні ў іншых гарадах і сёлах рэспублікі практычна няма дзе.

Таму з такой зацікаўленасцю наведвальнікі выстаўкі разглядалі яшчэ адзін яе экспанат — архітэктурна-праектную прапанову «Вытокі» з макетам рэканструкцыі бісквітна-паліграфічнай фабрыкі, прадстаўлены інстытутам «Мінскпраект». Па ініцыятыве Беларускага фонду культуры і Саюза мастакоў гэты архітэктурны комплекс у цэнтры Мінска, які, паводле генплана развіцця горада, падлягае зносу, прапанавана ператварыць у Рэспубліканскі цэнтр народных рамёстваў з майстэрнямі, магазінамі, музеямі, выставачнымі заламі.

У рамках выстаўкі фонд культуры арганізаваў аўкцыён твораў майстроў народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Гэтая акцыя не мела вялікага камерцыйнага значэння, але пераканала, што народнае мастацтва мае сваіх прыхільнікаў. Удзельнікі аўкцыёна беражна выносілі збанкі патомнага ружанскага ганчара І. Лісоўскага. У нейчым доме цяпер цвіце унікальны букет саламяных кветак народнага майстра, члена Саюза мастакоў Л. Главацкай.

Беларускі фонд культуры ажыццяўляе ў якасці аднаго з праграмных напрамкаў сваёй дзейнасці прапаганду і падтрымку народнага мастацтва і мастацкіх промыслаў — важнай часткі нацыянальнай культуры. Зараз рыхтуецца арганізацыя Таварыства народных майстроў Беларусі, якое, хочацца спадзявацца, стане клапатлівым і ўважлівым апекуном і мецэнатам беларускага народнага мастацтва і мастацкіх промыслаў.

**Вольга ЛАБАЧЭУСКАЯ,**
**мастацтвазнаўца.**

## *Мартыралог Беларусі: факты і імёны*

# *І ЛЮДЗІ, І ВЁСКА*

У гады сталінскіх злачынстваў на тэрыторыі нашай рэспублікі былі знішчаны не толькі людзі, але і вёскі. Адрас адной з іх такі: Капыльскі раён, Бабаўнянскі сельсавет, вёска Белікі. Зараз яе няма, у цяперашнім сельсавеце пра яе наўрад ці ведаюць. А ў вёсцы Язвіны яе памятаюць, бо частка былых белікаўцаў і цяпер жыве тут.

Яшчэ ў 50—60-х гадах на месцы Белікаў былі відаць рэшткі былых сядзіб. Але недзе ў 70-х гадах, у час чарговага меліярацыйнага наступу, бульдозеры зруйнавалі ўсё канчаткова.

Кіламетры 3—4 ад Белікаў была вёска Масявічы. Яе фашысты разам з людзьмі спалілі ў гады Вялікай Айчыннай. Гэтай вёсцы ёсць помнік у Хатыні, а вось Белікам...

Чаму ж такая доля выпала Белікам? Справа ў тым, што вёска знаходзілася за метраў 200—300 ад былой граніцы з Польшчай. Вось вёску і ліквідавалі. Частку людзей кудысьці выслалі, а частку перасялілі ў Язвіны.

Можа, дзе ля былой граніцы ёсць і яшчэ вёскі з такім жа лёсам?

У пачатку 1933 года ў Язвінах былі арыштаваны некалькі мужчын, якія потым прапалі без весткі. Магчыма, што ў Курапатах іх апошні прыпынак. Двух з іх я ведаў. Прашу ўнесці іх імёны ў спіс ахвяр сталінізму:

Цвірка Іван Міхайлавіч (Ян Міхайлаў)

Цвірка Вітольд Міхайлавіч.

У Цвіркі Івана была дачка Ганна (Аня—так звалі яе ў сям'і). Пасля арышту бацькі сям'я была выслана ў Комі АССР. Аню, якой было ўсяго 8 месяцаў, пакінулі ў родзічаў. Але і іх у хуткім часе выслалі, а дзяўчынка памерла.

**А. ПІЧУХА.**
г. п. Смілавічы.

**Самсон ПЯРЛОВІЧ**

# ПАДНІМЕЦЦА КРЫЎДА

І ноччу і днём падхалімы скуляць
Пра росквіт жыцця, пра свабоду...
Ад гэтай «свабоды» аж стогне зямля,
У «росквіце» тым— смерць народу.

Бо дэспат-кат Сталін старых і малых,
Запрогшы ў прыгонныя ёрмы,
Нявіннай крывёй суцяшае іклы,
Каму колькі жыць— ставіць нормы.

Людзей, каб прымусіць пакорна маўчаць
Пад страхам, як вязняў бясправўных,
Са зграяй сваёю пачаў вынішчаць
Народа сыноў самых слаўных.

А, каб заглушыць і праклёны і боль,
Кляймом страшным— «Вораг народа»
Кляймяць чалавека, ды ўсё што раз больш
Знішчаюць людзей з кожным годам.

Калі б удалося ўсе косці сабраць
Усюды, дзе палі ахвяры,
З касцей тых напэўна паўстала б гара,
Што рвала б вяршыняю хмары.

А слёзы і кроў, што дамучаны люд
У горы бязлітасным выліў,
Калі б не праніклі ў матулю-зямлю,
І сонца, мабыць, патушылі б.

Ці ж выцерпіць крыўда?! Мільёнам галоў
Яна яшчэ грозна паўстане!
Хіба хто апошнім сумленнем аглох,
Той толькі мо сцерпіць маўчанне.

1947.

**Верш «Паднімецца крыўда» Самсон Пярловіч даслаў мне з такой прыпіскай: «З-за гэтага верша я быў дастаўлены да вядомага грознага Цанавы... А было гэта восенню 1947 года...» У Навагрудку, на леташнім свяце Адама Міцкевіча, калі я ўпершыню ўбачыў і пачуў Самсона Пярловіча, ён яшчэ ўспамінаў, што ў Цанавы рукапіс гэтага верша быў захаваны ў цэлафане, што Цанава на ўласныя вочы захацеў убачыць юнака, які асмеліўся такое напісаць пра «бацьку народаў». Сам Цанава не мог у такое паверыць! Дваццаць гадоў было тады хлопцу. Чым яму прыйдзецца расплачвацца за такі верш, ён цалкам разумеў. І маладосцю сваёй і расплачваўся ў берыеўскіх лагерах. І талентам, які мог бы вунь як развіцца ў іншых абставінах, хоць не заглух і ў тых, якія грамадзянскай смеласцю сваёй сам сабе наканаваў малады юнак з Навагрудчыны...**

**Самсон Пярловіч мог бы застацца аўтарам аднаго верша. Колькі гэтых аўтараў аднаго верша было ў нас у XIX стагоддзі! Навагрудчанін таксама — Паўлюк Багрым з Крошына; з Купяцічаў, што ля Пінкавіч каля Пінска, Франц Савіч; Кастусь Каліноўскі — аўтар верша-запавету «Марыська чарнаброва, галубка мая...» Ды хоць бы і адзін толькі гэты верш «Паднімецца крыўда» лёг на шалі гісторыі беларускай літаратуры, ён ужо ўпісаў бы імя Самсона Пярловіча ў яе, як вершы-адзінцы нашых паэтаў XIX стагоддзя паўпісвалі ў яе імёны сваіх творцаў. Упісаў бы!**

**Але тут хочацца сказаць яшчэ і пра іншае — сённяшнім любіцелям разважаць наконт таго, пісалі ці не пісалі ў нас людзі, што называецца, у сталы, былі ці не былі ў нас сапраўдныя вяршыні ці толькі куп'ё. Не толькі «ў сталы», бачыце, усё ў народзе пісалася. Пачакаем жа, бо не ўсё з шуфлядаў лягло яшчэ на сталы, не ўсё знойдзена ў архівах — дзяржаўных і хатніх. І што не ўсё знойдзена, не ўсё яшчэ ведаем мы пра сваю і дальнюю і больш блізкую гісторыю, верш Самсона Пярловіча 1947 года пераканаўча даказвае.**

**Публікацыя падобных вершаў — гэта не проста адкрыццё новага імя ў літаратуры. Гэта працяг адкрыцця сапраўднай мудрасці і таленавітасці народа, які заўсёды ва ўсіх умовах не перастае заставацца смелым, гераічным, вольналюбівым.**

**Алег ЛОЙКА.**

*Пераклады*








# Каралёк

*АПАВЯДАННЕ*

**«Гэты хлапчук выхапіў пісталет і адзіным стрэлам паклаў усіх старых, у тым ліку і мяне...»—пісаў выдатны мастак слова І. Бунін у канцы 20-х гадоў пра У. Набокава (1899—1977), які выступаў тады пад псеўданімам «Сірын», прачытаўшы яго першыя раманы.**

**Уладзімір Уладзіміравіч Набокаў нарадзіўся ў Пецярбурзе ў сям'і дзеяча кадэцкай партыі. Пасля сканчэння Танішаўскага вучылішча ў 1916 годзе выпусціў першы зборнік вершаў. З 1919 года да канца жыцця быў у эміграцыі. Скончыў Трыніты-коледж (Кембрыдж). З 1940 года пісаў па-англійску.**

**У Савецкім Саюзе творы У. Набокава друкаваліся ў часопісах «Москва», «Литературная учеба», «Огонёк», «Юность» і іншых выданнях. Зараз у выдавецтве «Мастацкая літаратура» рыхтуецца да друку зборнік выбраных твораў, куды ўвойдуць раннія раманы У. Набокава «Машачка», «Абарона Лужына», «Запрашэнне на кару», лепшыя апавяданні са зборнікаў «Вяртанне Чорба» (1929), «Выведнік» (1938), «Вясна ў Фіяльце» (1956). Адно з апавяданняў, якое не друкавалася ў краіне, змяшчаем у перакладзе на беларускую мову.**

ЗБІРАЮЦЦА. сцягваюцца з розных мясцін выкліканыя прадметы, прычым іншым даводзіцца пераадольваць не толькі далеч, але і даўнасць: з кім больш клопату, з тым вандроўнікам ці з гэтым—з маладою таполяю, скажам, якая расла паблізу, але цяпер даўно ссечана, ці з абраным дваром, што існуе да гэтага часу, але знаходзіцца адсюль далёка? Спяшайцеся, калі ласка.

Вось авальная таполька ў сваёй красавіцкай пункцірнай зеляніне прыйшла ўжо і стала, дзе ёй загадана—ля высокай цаглянай сцяны—цалкам выпісанай з іншага горада. Насупраць вырастае дом, вялікі, пануры і брудны, і адзін за адным высоўваюцца, як скрынкі, дрэнненькія балконы. Там і сям размяркоўваюцца па двары: бочка, лёгкі цень лістоты, нейкая урна і каменны крыж, прыхілены да сцяны. І хоць усё гэта толькі пазначана, і яшчэ шмат што варта дапсўніць і дарабіць, але на адзін з балкончыкаў ужо выходзяць жывыя людзі — браты Густаў і Антон,—а ў двор ступае, коціць каляску з чамаданам і стосам кніг новы жылец—Рамантоўскі. З двара, асабліва калі дзень сонечны, і вокны напята расчынены, пакоі здаюцца налітымі густой чарнатой (заўсёды дзенебудзь ды бывае ноч—частка сутак усярэдзіне, а частка знадворку). Рамантоўскі паглядзеў на чорныя вокны, на двух вірлавокіх мужчын, што назіралі за ім з балкона, і, падняўшы чамадан на плячо, хіснуўшыся, быццам хто стукнуў яго па патыліцы, уваліўся ў дом. У бляску сонца засталіся каляска з кнігамі, бочка, другая бочка, мігатлівая таполька і надпіс дзёгцем на цаглянай сцяне. Галасуйце за спіс нумар вось такі. Яго перад выбарамі намалявалі, пэўна, браты.

Мы ўпарадкуем свет так: кожны будзе потны, і кожны будзе сыты. Будзе праца, будзе што жэрці.

(Рамантоўскі ўсяліўся ў суседнюю. Яна была яшчэ горш за іхнюю. Але пад ложкам ён знайшоў гутаперчавую лялечку: тут да яго жыў, мусіць, сямейны).

Аднак, нягледзячы на тое, што свет не перавярнуўся яшчэ канчаткова і цалкам у стан прадметнасці, а яшчэ зберагаў тут і там абсягі неасязальныя і недатыкальныя, браты адчувалі сябе ў жыцці дзябёла і ўпэўнена. Старэйшы, Густаў, служыў на мэблевым складзе; малодшы быў часова без працы, але не журыўся. Скрозь ружовы твар Густава з даўгімі, тырчком, льнянымі бровамі. Яго шырокая, як шафа, грудная клетка, і вечны пуловер з крутой шэрай воўны, і гумкі на згібах тоўстых рук,— каб нічога не рабілася абы-як. Васпаваты твар Антона з цёмнымі вусамі, падстрыжанымі трапецыяй. Яго чырвоная ватоўка і жылістая хударлявасць. Але калі яны абодва абапіраліся на жалезныя парэнчы балкона, зады былі ў іх кропля ў кроплю аднолькавыя—вялікія, пераможныя, шчыльна абцягнутыя па абкатах клятчастым сукном.

Яшчэ раз: свет будзе потны і сыты. Гультаям, паразітам і музыкантам уваход забаронены. Пакуль сэрца пераганяе кроў, трэба жыць, ліха яго бяры. Густаў ужо вось два гады запасіць грошы, каб жаніцца на Ганне, купіць буфет, дыван.

Па вечарах, разы тры на тыдзень яна прыходзіла—дзябёлая, спраўныя рукі, шырокае пераноссе ў рабаціннi, свінцовы цень пад вачыма, рэдкія зубы, з якіх адзін да таго ж выбіты. Утраіх цягнулі піва. Яна падымала да патыліцы голыя рукі, паказваючы бліскучае рудое апярэнне пад пахамі, і, закінуўшы галаву, так разяўляла рот, што было відаць усё паднябенне і язычок гартані, падобны на гузку варанай курыцы. Абодвум братам быў даспадобы яе анатамічны смех, яны старанна казыталі яе.

Удзень, пакуль брат быў на працы, Антон сядзеў у таварыскім шынку або качаўся сярод дзьмухаўцоў на халоднай і яркай яшчэ траве на беразе канала і сачыў з зайздрасцю, як гаманкія малойцы грузяць вугаль на баржу, або бессэнсоўна глядзеў угору, у святочнае блакітнае неба, што наганяла сон. Але вось,—нешта ў наладжаным жыцці братоў дало збой.

Яшчэ тады, калі Рамантоўскі ўкатваў каляску ў двор, ён выклікаў у іх раздражненне і цікаўнасць. Іх нюх быў беспамылковым: сваім нюхам яны вынюхалі: гэты—не як усе. Звычайны смертны нічога б такога з першага позірку ў Рамантоўскім не ўбачыў, але браты ўбачылі. Ён, напрыклад, хадзіў не як усе: ступаючы, адметна прыпадымаўся на пругкай падэшве: ступіць і ўзляціць, быццам на кожным кроку была магчымасць разгледзець нешта надзвычайнае паверх звычайных галоў. Быў ён што называецца бамбіза, з бледным вастраносым тварам і страшэнна неспакойнымі вачыма. З кароткіх рукавоў двухбортнага пінжака з нейкай назольнай і нікчэмнай відочнасцю (вось і мы, што нам рабіць?) вылазілі доўгія кісці рук. Адыходзіў і прыходзіў ён у няпэўныя гадзіны. У адзін з першых жа дзён Антон бачыў, як ён стаіць каля кніжнага кіёска і прыцэньваецца, або нават купіў, бо гандляр борздзенька стукнуў адну кніжку аб другую—пыльныя—і зайшоў за імі за кіёск. Выявіліся і іншыя дзівацтвы: святло гарыць амаль усю ноч; некампанейскі.

Чуецца голас Антона:

— Гэты франт дзярэ нос. Варта паглядзець на яго бліжэй.

— Я яму прадам люльку, — сказаў Густаў.

Цьмянае паходжанне люлькі. Яе неяк прынесла Ганна, але браты прызнавалі толькі цыгаркі. Дарагая, яшчэ неабкураная, з полым устаўным стрыжнікам у прамым цыбуку. Да яе—замшавы чахольчык.

— Хто там? Што вам трэба?—спытаў Рамантоўскі праз дзверы.

— Суседзі, суседзі,—адказаў Густаў басам.

І суседзі ўвайшлі прагна азіраючыся. На стале абрубак кілбасы на паперцы і стосак крыва складзеных кніг—адна разгорнута на малюнку: караблі з ветразямі і зверху ў куце ляціць немаўля з надзьмутымі шчокамі.

— Давайце знаёміцца,—сказалі браты.—Жывём пры боку, можна сказаць, а ўсё неяк...

На камодзе спіртоўка і два апельсіны.

— Рады пазнаёміцца,—ціха сказаў Рамантоўскі і, прысеўшы на край пасцелі, нахінуўшы лоб з налітаю жылай, пачаў шнураваць чаравікі.

— Вы адпачывалі,—сказаў з грознай ветлівасцю Густаў,—мы да вас не ў час...

Той нічога, нічога не адказаў; але раптам выпрастаўся, павярнуўся да акна, падняў палец і замёр.

Браты паглядзелі: акно як акно—воблака, макаўка таполі, сцяна насупраць.

— Вы хіба не бачыце?—спытаў Рамантоўскі.

Яны, чырвоны і шэры, падышлі да вакна, нават высунуліся, стаўшы аднолькавымі. Нічога. І знянацку абодва адчулі: нешта не так—ой, не так! Павярнуліся. Рамантоўскі ў ненатуральнай позе стаяў каля камоды.

— Мабыць, падалося,—сказаў ён, не гледзячы на іх.—Праляцела як быццам... Я аднойчы бачыў, як упаў аэраплан.

— Гэта бывае,—пагадзіўся Густаў.—А мы зайшлі не так сабе. Ці не хочаце купіць? Зусім новая... І футарал ёсць...

— Футарал? Вось як. Я, ведаеце, рэдка куру.

— Дык будзеце часцей. Возьмем нядорага. Тры з паловай.

— Тры з паловай. Вось як.

Ён круціў люльку ў руках, прыкусіўшы ніжнюю губу, нешта ўзважваючы. Яго зрэнкі не глядзелі на люльку, а хадзілі ўправа і ўлева маятнікам.

Між тым браты пачалі расшырацца, расці, яны запоўнілі ўвесь пакой, увесь дом, і потым вырaслі з яго. У параўнанні з імі таполька была ўжо не больш цацачных дрэўцаў, такіх хісткіх, з фарбаванае ваты, на зялёных круглых падстаўках. Дом з пыльнага кардону са слюдзянымі вокнамі даходзіў братам да каленяў. Велізарныя, з пераможным пахам поту і піва, з бязглуздымі бычынымі галасамі, з прыбіральняю замест мозга, яны выклікаюць дрыготку зневажальнага страху. Я не ведаю, чаму яны пруць на мяне. Малю вас, адчапіцеся, я не чапаю вас, не чапайце і вы мяне—я саступлю вам—толькі адчапіцеся.

— Але дробяззю ў мяне не набярэцца,—ціха сказаў Рамантоўскі.—Вось хіба што разменіце дзесятку.

Размянілі і з ухмылкамі пайшлі. Праверанную на святло асігнацыю Густаў схаваў у жалезную скарбонку.

Суседу аднак яны спакою не далі. Іх проста прыводзіла ў шаленства, што нягледзячы на спраўджанае знаёмства чалавек заставаўся ўсё гэткім жа непадступным. Ён пазбягаў з імі сустрэч, так што даводзілася падпільноўваць і лавіць яго, каб на імгненне зазірнуць у ягоныя рухлівыя зрэнкі. Выявіўшы начное жыццё ягонай лямпы, Антон не вытрываў, і, басанож падышоўшы да дзвярэй з-пад якіх нацятаю залатою ніткай свіцілася святло, пастукаў.

Але Рамантоўскі не адгукнуўся.

— Спаць, спаць,—сказаў Антон, ляпаючы далонню па дзвярах.

Святло моўчкі глядзела скрозь шчыліну. Антон патузаў ручку. Залатая нітка знянацку абарвалася.

З той пары абодва, асабліва Антон, балазе ўдзень не працаваў, наладзілі нагляд за бяссоннем суседа. Але вораг быў хітры і меў тонкі слых. Як бы ціхенька ні наблізіліся да дзвярэй, святло за імі імгненна згасала, быццам яго зусім не было,—і толькі калі вельмі доўга стаяць, стрымаўшы дых, у халодным калідоры, можна было дачакацца вяртання чуйнага промня. Так трацяць прытомнасць жукі.

Нагляд пачынаў знясільваць. Нарэшце браты злавілі яго неяк на лесвіцы і прычапіліся.

— Дапусцім, я прывык чытаць па начах. Якая вам справа? Дайце мне прайсці, калі ласка.

Калі ён павярнуўся, Густаў жартам збіў з яго капялюш. Рамантоўскі падняў яго, нічога не сказаўшы.

Праз некалькі дзён увечары, падгадаўшы імгненне—ён вяртаўся з прыбіральні і не паспеў шмыгнуць да сябе,—браты стоўпіліся вакол яго. Іх было толькі двое, але ўсё ж яны даўмеліся стоўпіцца—і запрасілі яго зайсці да іх.

— Ёсць піўцо,—сказаў Густаў, падміргнуўшы.

Ён паспрабаваў адмовіцца.

— Ну чаго там, пойдзем! — крыкнулі браты, узялі яго пад пахі і павалаклі. (Пры гэтым яны адчувалі, які ён худы, тонкія прадплечы, слабыя, нясцерпная спакуса — эх бы, сціснуць як мае быць, да хрумсту, — эх, цяжка ўтрымацца, ну хоць бы абмацаць, па дарозе, так, злёгку...)

— Балюча, — сказаў Рамантоўскі. — Кіньце, прашу вас. Я магу ісці і адзін.

Піўцо, вялікаротая нявеста Густава, цяжкі дух. Рамантоўскага паспрабавалі напаіць. Без каўнерыка, з меднай запінкай пад вялікім безабаронным кадыком, з даўгім бледным тварам і трапяткімі вейкамі, ён у складанай позе сядзеў на крэсле, сёе-тое падкурчыў, а сёе-тое выгнуў, і калі падняўся, раскруціўся як спіраль. Яго, зрэшты, прымусілі скруціцца зноў, і па парадзе братоў Ганна села да яго на калені, і ён, скоса пазіраючы на распухлы пад'ём нагі ў занадта цеснай вупражы пантофлі, пераадольваў як мог тугу і не мог косную, рудую скінуць.

На хвіліну ім падалося, што ён зламаны, што ён свой, і Густаў нават сказаў:

— Вось бачыш. Дарма грэбаваў нашай кампаніяй. Раскажы ж нам што-небудзь. Нам крыўдна, што ты ўсё неяк маўчыш. Што ты чытаеш па начах?

— Старыя, старыя казкі, — сказаў Рамантоўскі такім голасам, што братам раптам зрабілася вельмі сумна. Сумота была грозная, душная, але хмель не даваў навальніцы грымнуць, а наадварот хіліў да сну. Ганна спаўзла з каленяў Рамантоўскага і зачапіла ўжо сонным клубам стол: парожнія бутэлькі хітнуліся, як кеглі, і адна ўпала. Браты хіліліся, валіліся, пазяхалі, пазіраючы скрозь сонныя слёзы на госця. Ён, хвалюючыся, праменячыся, выцягнуўся і пачаў звужацца і паступова знік.

Так далей нельга. Ён атручвае жыццё сумленным людзям. Яшчэ, бадай, у канцы месяца з'едзе — цэлы, неразгаданы, горда адвярнуўшы нос. Мала таго, што ён ходзіць і дыхае не як усе, мы ніяк не здолеем ухапіць розніцу, намацаць вушка, за якое можна было б яго выцягнуць. Ненавіснае ўсё тое, што нельга крануць, узважыць, злічыць.

Пачаліся дробныя катаванні. Яны здолелі ў панядзелак насыпаць яму ў прасціны бульбянай мукі, якая, вядома, можа ўначы пазбавіць розуму. У аўторак ён быў сустрэты на вуглу — нёс ахапак кніг — і так быў акуратна ўзяты ў каробачку, што кнігі ўпалі ў вызначаную лужыну. У сераду змазалі дошку ў прыбіральні сталярным клеем. У чацвер фантазія братоў згасла.

Ён маўчаў, ён маўчаў. А ў пятніцу нагнаў лёгкім сваім алюрам Антона каля брамы двара, тыцнуў яму ілюстраваную газету — хочаце, маўляў, паглядзець? Гэтая нечаканая ветлівасць азадачыла і яшчэ больш распаліла братоў.

Густаў загадаў сваёй нявесце раскатурхаць Рамантоўскага для таго, каб было да чаго прычапіцца. Міжволі імкнешся пакачаць мяч, перш чым стукнуць нагою. Ахвочыя пагуляць жывёлы таксама выбіраюць рухомы прадмет. І хоць Ганна, напэўна, была Рамантоўскаму ў вышэйшай ступені агіднаю сваёй малочнаю ў клапіных крапінках скурай, пустэчаю светлых вачэй і мокрымі мыскамі дзяснаў між зубоў, ён палічыў дарэчы схаваць непрыязнасць, баяўся, пэўна, грэблівасцю да Ганны раз'ятрыць яе жаніха.

Паколькі ён усё роўна раз на тыдзень хадзіў у кіно, то ў суботу ён узяў яе з сабою, мяркуючы, што гэтым адкупіцца. Незаўважна, на прыстойнай адлегласці, абодва ў новых кепках і чырвоных чаравіках, браты пацяклі ўслед, — і на гэтых сумніцельных вуліцах, у пыльным прыцемку, былі сотні людзей як

яны, але толькі адзін Рамантоўскі.

У прадаўгаватай залцы ўжо мігцела ноч — месячная ноч сваёй вытворчасці, — калі браты, тоячыся і сутулячыся, селі ў задні рад. Недзе наперадзе чулася пакутна-салодкая прысутнасць Рамантоўскага. Ганна па дарозе нічога не здолела вывудзіць з непрыемнага спадарожніка, ды і не зусім разумела яна, чаго Густаву ад яго трэба. Пакуль яны ішлі, ёй хацелася пазяхаць ад аднаго выгляду ягонай худобы і самоты. Але ў кіно яна пра яго забылася, прытуліўшыся да яго абыякавым плячом. Прывіды перамаўляліся трубнымі галасамі. Барон прыгубіў віно і асцярожна паставіў кубак — з грукатам выпушчанага ядра.

А потым барона лавілі. Хто б пазнаў у ім галоўнага махляра? За ім палявалі палка, люта. З выбухным грукатам імчаў аўтамабіль. У прытоне біліся бутэлькамі, крэсламі, сталамі. Маці клала спаць чароўнага дзіцёнка.

Калі ўсё скончылася, і Рамантоўскі, спатыкнуўшыся, выйшаў у прахалоду і змрок, Ганна ўсклікнула: «Ах, гэта было дзівосна!»

Ён адкашляўся і праз хвіліну сказаў: «Не будзем перабольшваць. Усё гэта наяве — больш нудна».

— Сам ты нудны, — запярэчыла яна панура, а потым ціха засмяялася, згадала міленькае дзіця.

Ззаду, усё на той жа адлегласці, валакліся за імі браты. Абодва былі змрочныя. Абодва напампоўваліся змрочнай энергіяй. Антон змрочна сказаў:

— Гэта ўсё ж такі непарадак — гуляць з чужою нявестай.

— Асабліва ў суботні вечар, — сказаў Густаў.

Пешаход, параўняўшыся з імі, выпадкова зірнуў на іх твары і міжволі пайшоў шпарчэй.

Уздоўж агароджы начны вецер гнаў шаматкое смецце. Мясціны пустыя і цёмныя. Злева, над каналам мружыліся дзе-нідзе агеньчыкі. Справа спехам акрэсленыя дамы павярнуліся да пусткі чорнымі спінамі. Праз некаторы час браты пайшлі шпарчэй.

— Маці і сястра ў вёсцы, — гаварыла Ганна ціха і даволі ўтульна сярод мяккай ночы. — Калі выйду замуж, можа быць, з'ездзім туды да іх. Мая сястра мінулым летам...

Рамантоўскі знянацку азірнуўся.

— Мінулым летам выйграла ў латарэю, — працягвала Ганна, машынальна азірнуўшыся таксама.

Густаў зычна свіснуў.

— Ах, ды гэта яны! — усклікнула Ганна і радасна зарагатала. — Ах-ах, якія...

— Дабранач, дабранач, — сказаў Густаў паспешлівым задыханым голасам. — Ты што тут, асёл, робіш з маёй нявестай?

— Нічога не раблю, мы былі...

— Ну-ну, — сказаў Антон і з адцяжкаю стукнуў яго пад рэбры.

— Калі ласка, не біцеся. Вы добра ведаеце...

— Кіньце яго, хлопцы, — сказала Ганна са смяшком.

— Павінны правучыць, — сказаў Густаў, распаляючыся і з нясцерпным пачуццём смакуючы наперад, як ён таксама зараз па прыкладу брата дакранецца да гэтых храсткоў, да гэтага храбусткага хрыбта.

— Між іншым, са мною аднойчы здарылася смешная гісторыя, — скорагаворкай пачаў Рамантоўскі, — але тут Густаў пачаў у рэбры яму ўвінчваць, увінчваць усе пяць гарбоў свайго велізарнага кулака, і гэта было зусім, не апісаць як, балюча. Рамантоўскі адхіснуўся, паслізнуўся, ледзь не ўпаў, упасці азначала б тут жа загінуць.

— Няхай выбіраецца, — сказала Ганна.

Далёка наперадзе праглядвала выратавальнае святло — там была асветленая вуліца, — і хоць падобна гарэў усяго адзін які-небудзь ліхтар, яна здавалася, гэтая пройма ў начы, дзівоснай ілюмінацыяй, шчаслівым, прамяністым абсягам, поўным уратаваных людзей. Ён ведаў, што калі кінуцца бегчы, то ўсё будзе скончана, бо немагчыма паспець дабегчы; трэба спакойна і роўна ісці, гэтак, можа, дойдзеш, і маўчаць, і не прыкладаць рукі да пякучага боку.

Голас Ганны:

— Густаў, адчапіся ад яго. Потым не ўтрымаешся, сам ведаеш, успомні, што раз было, калі ты з каменячосам...

— Маўчы, сцерва, ён ведае, што трэба! (Гэта голас Антона).

Цяпер да абсягу святла, дзе можна ўжо разгледзець і лістоту каштана, і, здаецца, тумбу, а там, злева, мост, — да гэтага замёршага, жаллівага святла, — цяпер не так ужо далёка... Але ўсё ж не варта бегчы. І хоць ён ведаў, што гэта недарэчна, пагібельна, ён па-за воляю, знянацку ўзляцеў і, усхліпнуўшы, рынуў наперад.

Ён бег і быццам рагатаў на бягу. Густаў яго дагнаў у два скачкі. Абодва ўпалі, і сярод лютага шамацення і хрумсту быў адзін асаблівы гук, слізкі, раз, і яшчэ раз — па дзяржак, — і тады Ганна імгненна збегла ў цемру, трымаючы ў руцэ свой капялюш.

Густаў падняўся. Рамантоўскі ляжаў на зямлі, кашляў і гаварыў па-польску. Усё абарвалася.

— А цяпер гайда, — сказаў Густаў. — Я яго ляпнуў.

— Выймі, — сказаў Антон. — Выймі з яго.

— Ужо вынуў, — сказаў Густаў. — Як яго ляпнуў!

Яны беглі, але не да святла, а праз цёмную пустку, а калі, абмінуўшы могілкі, выйшлі ў правулак, то пераглянуліся і пайшлі звычайным крокам.

Раніцой з'явіліся паліцэйскія, яны абшуквалі пакой забітага і пра сёе-тое распытвалі ў Антона, які зайшоў да іх. Густаў застаўся ў пасцелі — сыты, сонны, чырвоны, як вестфальская вяндліна.

Трохі счакаўшы, паліцыя пайшла, і Антон вярнуўся. Ён быў узрушаны, давіўся смехам і прысядаў, бязгучна ляпаючы кулаком па далоні.

— Ну і смехата! — сказаў ён. — Ведаеш, хто ён быў? Каралёк!

Каралёк па-іхняму значыла фальшываманетчык. І Антон расказаў, што ён здолеў дазнацца: быў у складзе шайкі, аказваецца, і толькі што выйшаў з турмы, а да таго маляваў грошы; пэўна, яго пырнуў саўдзельнік.

Густаў тросся ад смеху таксама, але потым раптам перамяніўся з твару.

— Падсунуў, падмануў, махляр! — усклікнуў ён і голы пабег да шафы, дзе зберагалася скарбонка.

— Нічога, спусцім, — сказаў Антон. — Хто не ведае, не адрозніць.

— Не, які махляр, — паўтарыў Густаў.

Мой бедны Рамантоўскі! А я ж думаў разам з імі, што ты сапраўды адметны. Я думаў, шчыра кажучы, што ты кожную ноч — выпраўляючы верш ці песцячы думку — святкуеш непахісную перамогу над братамі. Мой бедны Рамантоўскі! Цяпер усё скончана. Сабраныя прадметы разбрыдаюцца зноў, на жаль. Тапо́лька бляжне і здымаецца, вяртаецца туды, адкуль была ўзятая. Растае цагляная сцяна. Балкончыкі засоўваюцца адзін за адным, і дом паварочваецца, адплывае. Адплывае ўсё. Распадаецца гармонія і сэнс. Свет зноў вярэдзіць мяне сваёй стракатай пустэчай.

Берлін, 1933

Пераклад Галіны ЛАНЕЎСКАЙ.

# КОЛЬКІ СЛОЎ ПРА ДОБРАГА ЧАЛАВЕКА



**Памерла Лідзія Іванаўна Камоцкая.**

**У Саюзе пісьменнікаў яе ведалі многія — былая настаўніца беларускай мовы і літаратуры, яна на працягу не меней двух дзесяткаў гадоў наведвала вечары і творчыя мерапрыемствы, што праводзіліся ў яго сценах.**

**Нарадзілася Лідзія Іванаўна ў 1910 годзе ў Мінску ў сям'і рабочага-чыгуначніка, актыўнага ўдзельніка рэвалюцыйных падзей на Беларусі. Скончыла школу, пасля — у 1937 г. — Мінскі педагагічны інстытут імя Горкага. Адным з яе інстытуцкіх настаўнікаў быў Іван Міхайлавіч Фёдараў — Янка Маўр, чым яна вельмі ганарылася.**

**Я пазнаёмілася з Лідзіяй Іванаўнай даўным даўно — у 1946 годзе, калі прыйшла вучыцца ў новую школу ў Чырвоным Урочышчы. Шэра-зялёны нямецкі барак з невялікімі вокнамі — так выглядала на першым часе наша 5-я школа. Мы называлі яе «восем класаў і дзевяты калідор», таму што для дзевяці класаў, якія сабралі ў пасёлку, месца не хапала, і старэйшыя па чарзе вучыліся на калідоры.**

**Ці не ў першы ж дзень мне давялося пісаць беларускую дыктоўку. У той час нікога ад беларускай мовы не вызвалялі, хоць амаль палова вучняў была з Расіі — з Масквы або Горкага, з Ульянаўска, як я, або Яраслаўля, адкуль былі запрошаны будаваць Мінскі аўтазавод спецыялісты - аўтамабілісты, інжынеры і рабочыя. Ці то Лідзія Іванаўна так выразна дыктавала, ці то проста хацела падбадзёрыць новенькую, але за тую дыктоўку я атрымала не двойку, як трэба было чакаць, а тройку. З цягам часу справы пайшлі лепей, з'явіліся чацвёркі, а потым і пяцёркі.**

**Не буду сцвярджаць, што Лідзія Іванаўна была выдатным педагогам, але справу сваю яна рабіла сумленна. Жылося ж ёй у той нялёгкі час вельмі нясоладка, тым болей што прыходзілася адной, без мужа, які загінуў на фронце, гадаваць двух сыноў.**

**Вельмі трапна сказана: чужую радасць нельга ні ўкрасці, ні прысвоіць, бо радасць кожнага чалавека скроена акурат па яго мерцы. Пенсію Лідзія Іванаўна атрымлівала маленькую — няпоўных шэсцьдзесят рублёў, але яна ніколі не скардзілася на недахват грошай. Больш таго, яна наогул ніколі не гаварыла пра грошы. У старой настаўніцы быў свой свет.**

**Як толькі выходзіў больш-менш цікавы беларускі твор, у тэлефоннай трубцы чуўся яе голас:**

**— Юля, вы ўжо прачыталі?**

**І калі я адказвала, што яшчэ не паспела ці няма часу, яна вельмі засмучалася, бо ёй не цярпелася падзяліцца ўражаннямі, пачуць чужую думку.**

**У яе не было магчымасцей збіраць кнігі, але да яе паслуг былі бібліятэкі, яна рабіла выразкі з падараваных часопісаў. У яе не было дачы, але яна вырошчвала кветкі пад сваім акном і, як толькі яны пачыналі цвісці, адносіла іх сваім сябрам і знаёмым. І на маім стале кожнае лета стаялі бэз і касачы з маленькага гародчыка па вуліцы Гая. Калі з'яўляліся першыя ягады, пачыналася яе лясная пара. Ці грыбны быў год, ці не грыбны, запаветныя лясныя мясціны ўздоўж Лагойскай шашы дарылі ёй свой ураджай. А потым, увосень і ўзімку, яна разносіла слоікі з кампотамі, сушаныя ці марынаваныя грыбкі людзям. З пустымі рукамі ні да кога не прыходзіла, у дапамозе нікому не адмаўляла, калі што здаралася, сама прапаноўвала дапамагчы. Пры гэтым заставалася чалавекам дастаткова незалежным, з пачуццём уласнай годнасці.**

**Зіма была часам іншых яе заняткаў і захапленняў. Сваёй просценькай, сціплай «Зменай» Лідзія Іванаўна зрабіла сотні здымкаў — фотапартрэты ці не ўсіх членаў Саюза пісьменнікаў, многіх мастакоў, акцёраў, людзей вядомых і невядомых. Яна здымала святы ў памятных літаратурных мясцінах — у Вязынцы, у Ракуцёўшчыне, сцэны са спектакляў, канцэртаў. Бясконца дарыла свае здымкі, рабіла альбомы. Цяпер частка гэтых альбомаў будзе захоўвацца ў бібліятэцы Саюза пісьменнікаў.**

**Яна любіла музыку — доўгія гады спявала ў хоры ветэранаў, часта наведвала філарманічныя канцэрты. Усяго якія два гады назад ездзіла ў Вільню, каб абнавіць свае веды ў ткацтве і заказаць новы, большы станочак, на якім можна было б ткаць не толькі закладачкі з беларускім арнаментам (колькі яна іх раздарыла!), але і паясы.**

**У апошнія гады старая настаўніца вельмі блізка прымала да сэрца ўсё, што адбываецца ў нашым грамадскім жыцці. Асабліва хвалявалі яе пытанні развіцця і пашырэння ўжытку беларускай мовы. Часам яе думкі знаходзілі месца і на старонках друку.**

**Карэнная мінчанка, Лідзія Іванаўна ўсё жыццё пражыла ў камунальных кватэрах, з суседзямі, і толькі некалькі апошніх месяцаў — у асобнай аднапакаёўцы. Як яна радавалася, калі мы з Тамарай Рыгораўнай Цулукідзе наведалі яе ў снежні, — і што ціха, спакойна, і што пакой сонечны і сухі, у якім і кветкам, якія занялі ўсё даўгое падваконне, добра, не тое што ў ранейшым сырым, на першым паверсе, з акном на поўнач.**

**Яна любіла жыццё — на волі, у лесе, з людзьмі, за кнігай.**

**— Як хочацца выздаравець, як хочацца яшчэ пажыць, — казала яна, калі я наведала яе ў бальніцы пасля аперацыі, і вочы яе поўніліся слязьмі...**

**Мір душы вашай, шаноўная, добрая Лідзія Іванаўна.**

**Юлія КАНЭ.**

## ЭКАЛОГІЯ: ПРАБЛЕМЫ, СІТУАЦЫІ, КАНФЛІКТЫ

# АГУЛЬНАЯ РАКА, АГУЛЬНЫ КЛОПАТ

**У лютым у Віцебску ў памяшканні тэатра імя Якуба Коласа працавала міжрэспубліканская канферэнцыя па пытаннях экалогіі прыроды і культуры народаў басейна Заходняй Дзвіны — Даўгавы. Шэраг удзельнікаў канферэнцыі ўжо сустракаліся раней у Краславе і Полацку (пра полацкую сустрэчу ў нашай газеце за 18.XI. 1988 быў змешчаны допіс «Рака нашага лёсу»). Спецыялісты розных галін, супрацоўнікі Латвійскага і Беларускага фондаў культуры, Віцебскага аддзялення БФК, Смаленскага і Калінінскага аддзяленняў Савецкага фонду культуры абмяркоўвалі структуру Міжрэспубліканскага каардынацыйнага цэнтра, планы ягонай работы, узгаднялі праекты рэгіянальных праграм і сумесных мерапрыемстваў на 1989 год, абралі савет цэнтра.**

**Асновай для работы канферэнцыі былі агульныя практычныя рэкамендацыі, распрацаваныя на леташняй вераснёўскай сустрэчы ў Полацку. У экалагічным і культурна-гістарычным раздзелах рэкамендацый прадугледжаны распрацоўка аптымальнай сістэмы прыродных тэрыторый, якія падлягаюць ахове; шырокія грамадскія абмеркаванні праектаў, звязаных з ядзернай энергетыкай, правядзенне экалагічнай экспертызы праектаў экспертамі МАГАТЭ; культурны абмен паміж рэспублікамі, абласцямі басейна Дзвіны — Даўгавы; сумеснае вывучэнне пытанняў гісторыі, этнаграфіі і моваэнаўства, старажытных водных і сухапутных гандлёвых шляхоў. Віцебская канферэнцыя ўдакладніла «полацкія тэзісы», надала ім канкрэтыкі.**

**Сёння, як адзначаў на віцебскай канферэнцыі не адзін прамоўца, экалагічныя праблемы стаяць перад чалавецтвам не менш востра, чым ядзерная пагроза. Ад іх вырашэння залежыць лёс жыцця на планеце.**

**Зыходзячы са складанай сітуацыі, якая склалася ў басейне Дзвіны — Даўгавы, нам варта звярнуцца да сусветнага вопыту аховы прыроды і стварэння экалагічна чыстай вытворчасці. Чыстая Дзвіна — гэта найперш чыстыя азёры, малыя рэкі і крыніцы, што сілкуюць вялікую раку. Аднак у выніку бяздумнай меліярацыі зменшылася іх колькасць, знікаюць прыбярэжныя лясы, разбураюцца унікальныя прыродныя і гістарычныя ландшафты.**

**Хто гаспадар вады? — ставілася пытанне на канферэнцыі. Такім гаспадаром павінны быць не меліяратары, не Мінводгас, а Саветы. Прыйшоў час паставіць у дзяржаўным маштабе пытанне аб кошце вады.**

**Быў адзначаны станоўчы вопыт латышскай інтэлігенцыі па выхаванні экалагічнай свядомасці насельніцтва. Адна з сур'ёзных праблем — падрыхтоўка спецыялістаў-эколагаў у вышэйшых навучальных установах і потым — іх працаўладкаванне. У штатных раскладах устаноў можна знайсці інжынера-гідролага, але такой адзінкі, як эколаг, няма. Як няма дбайнага гаспадара прыроды, так няма і гаспадара помнікаў дойлідства. Гэта праблема таксама агульная для ўсяго басейна Дзвіны — Даўгавы. І хоць у асобных рэгіёнах справы адносна лепей (зноў пазітыўны вопыт Латвіі), аднак і там пытанне застаецца вельмі вострым. На жаль, і наш Віцебск — адзін з буйнейшых гарадоў на Дзвіне — сёння «адвярнуўся» ад ракі. Знішчаны «рачны фасад» Віцебска, і фактычна нічога не робіцца для яго аднаўлення. Наадварот — нефармалам горада даводзіцца змагацца за тое, каб не былі забудаваны «каробкамі» месцы, дзе захаваліся падмуркі колішніх архітэктурных дамінантаў Віцебска (калі не мы, дык, можа, нашы нашчадкі змогуць іх аднавіць).**

**Прадстаўнік Рускай праваслаўнай царквы гаварыў на канферэнцыі аб такой парадаксальнай сітуацыі. Звычайна ганебны стан, у якім сёння знаходзяцца шматлікія помнікі дойлідства, тлумачаць адсутнасцю сродкаў на рэстаўрацыю. У царквы такія грошы ёсць, але няма магчымасці іх рэалізаваць. Царкоўныя абшчыны маглі б адрэстаўрыраваць занядбаныя будынкі храмаў з тым, каб потым скарыстоўваць іх па прызначэнні. А турысты хай ходзяць. Руская праваслаўная царква гатова рабіць дзеля гэтага мэтавыя грашовыя ўклады. Акрамя таго, гатова ўзяць на сябе нагляд за хворымі і за могілкамі.**

**Выступаючыя адзначалі неабходнасць паставіць дзейнасць Міжрэспубліканскага каардынацыйнага цэнтра на заканадаўчую аснову. Дзеля гэтага ў яго павінны ўваходзіць прадстаўнікі Савецкай улады. Трэба шырэй актывізаваць прапаганду экалагічных ведаў сіламі творчай інтэлігенцыі трох рэспублік. Першай сумеснай акцыяй запланавана святкаванне 500-годдзя горада Андрыянопаля ў Калінінскай вобласці — самага «верхняга» горада на Дзвіне. Гэтая акцыя мае сваёй мэтай прыцягненне ўвагі грамадскасці да праблем малых гарадоў.**

**На гэтай канферэнцыі, як і на папярэдняй у Полацку, абмяркоўваліся і пытанні, звязаныя з будаўніцтвам АЭС.**

**На сённяшні дзень найбольш распрацаваную, дасканалую праграму захавання басейна Дзвіны — Даўгавы маюць латышы. Агульная частка праграмы ў Латвіі абнародавана, зараз распрацоўваюцца канкрэтныя планы на бліжэйшыя гады. Прадстаўнікі Латвіі выказалі гатоўнасць падзяліцца сваім вопытам з калегамі па Міжрэспубліканскім каардынацыйным цэнтры. «Штаб-кватэрай» цэнтра, яго своеасаблівым «банкам інфармацыі» на сённяшні дзень абраны Віцебск. Так што Віцебскаму абласному аддзяленню Беларускага фонду культуры выпала пачэсная, але і няпростая работа. Удзельнікі канферэнцыі выказалі спадзяванне, што ў бліжэйшы час да праграмы «Дзвіна — Даўгава» далучыцца Пскоўшчына, па землях якой таксама цячэ наша вялікая рака.**

**У 1990 годзе плануецца чарговая сустрэча ў Рызе, у 1991 — у Смаленску.**

**НАШ КАР.**

